*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

**Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990г.)** **№ 32(192)** **10 жніўня 1994 г.** **Кошт -- 150 рублёў**



## Міхаіл ЧЫГІР: «Нацыянальнае адраджэнне трэба падтрымліваць і развіваць»

У адным з апошніх нумароў «Народнай газеты» змешчана гутарка Івана Макаловіча з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Міхаілам Чыгірам. Так на пытанне, ці ведаюць дзеці прэм'ер-міністра беларускую мову, Міхаіл Мікалаевіч адказаў: «Разумеюць. Вучылі ў школе. Але не карыстаюцца. Я, калі прыязджаю ў вёску, размаўляю па-беларуску». На сённяшні дзень Міхаіл Чыгір любіць чытаць творы Панчанкі, Гілевіча, Брыля. У дзяцінстве захапляўся Лынькоўым і Маўрам.

«Вераснёўскі варыянт дамоўленасці з Расіяй падтрымліваю, а апошнія пагадненні — не. Дакумент, які прадугледжвае страту некаторых прыкмет дзяржаўнасці, відаць, павінен прымацца толькі пасля ўсенароднага абмеркавання. Не думаю, што прэм'ер ці кабінет міністраў можа ўзяць на сябе такую адказнасць», —так выказаўся М.Чыгір пра рублёвую зону. На пытанне: «Як Вы думаеце, наколькі Вы знаёмы з сапраўднай гісторыяй Беларусі?» ён адказаў: «Я кепска знаёмы з ёю. Але мая пазіцыя такая. Як бы ні складваліся падзеі ў мінулым, як бы яны ні разгорталіся, усё гэта наша гісторыя, наш набытак».

У гутарцы пра нацыянальнае адраджэнне М.Чыгір сказаў: «Яго трэба падтрымліваць і развіваць». І самае галоўнае ў гэтым: «Перш за ўсё — сфера культуры. Урад павінен аказваць матэрыяльную падтрымку ёй». Хочацца верыць, што падтрымка будзе, бо без дзяржаўнай падтрымкі нацыянальнага адраджэння не будзе ні адраджэння, ні падтрымкі дзеячамі культуры ўрада, які ўзначальвае прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір.

Н.К.

# ПОСТУП ТЫДНЯ



ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА НАВЕДАЎ З РАБОЧЫМ ВІЗІТАМ РАСІЙСКУЮ ФЕДЭРАЦЫЮ. Адбыліся перамовы з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным і кіраўніком расійскага кабінета міністраў Віктарам Чарнамырдзіным. Пасля перамоў Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што «знойдзены поўнае ўзаемаразуменне і падтрымка беларускай пазіцыі з боку Барыса Ельцына». Ён паведаміў: прэзідэнт Расіі прыняў запрашэнне наведаць у бліжэйшы час з афіцыйным візітам Беларусь. Закранаючы пытанне аб аб'яднанні грашовых сістэм, прэзідэнт нашай краіны сказаў, што прытрымліваецца вераснёўскага пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм, і паведаміў аб тым, што дагавор, без ушчамлення сувернітэту і змянення беларускай Канстытуцыі, практычна гатовы. Аляксандр Лукашэнка лічыць, што «аб'ядноўваць грашовыя сістэмы трэба, маючы блізкія ўзроўні адзін да аднаго як у рэформе, так і ва ўзроўні інфляцыі».

*У АДНЫМ З АПОШНІХ НУМАРОЎ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА» ЗМЕШЧАНА ІНТЭРВ'Ю З ГЕНЕРАЛЬНЫМ ДЫРЭКТАРАМ ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «МЕНСКІ ТРАКТАРНЫ ЗАВОД» ВІКТАРАМ ФІЛІПАВЫМ, які на пытанне: «Ці адпавядае сёння патрэбнасцям эканомікі наша грашовая сістэма?» адказаў: «Мы, вытворцы, аб увядзенні сваёй валюты гаварылі ўраду даўно. Вялі гутарку з былым Старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шушкевічам, з прэм'ер-міністрам В. Кебічам, з кіраўнікамі ўрадавых камісій, якія маюць дачыненне да гэтага пытання. Але пакуль няма ніякіх зрухаў. Свая нацыянальная валюта патрэбна. Надышоў час развітвацца з бартэрам». Ці пачуюць голас прамыслоўцаў сённяшнія кіраўнікі нашай краіны?*

НА СТАДЫІ ЗАВЯРШЭННЯ ЗНАХОДЗІЦЦА ПАДРЫХТОЎКА ПРАЕКТА ЗАКОНА АБ УЗНАГАРОДАХ, які павінен быць вынесены на абмеркаванне народным дэпутатам нашай краіны ўжо на бліжэйшай сесіі. Вышэйшай узнагародай дзяржавы прадугледжваецца званне «Герой Беларусі». На зацвярджэнне дэпутатам будзе прапанавана 4 ордэны і 5 медалёў.

*АРХІТЭКТАРЫ І ПРАЕКЦІРОЎШЧЫКІ АРЭНДНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА «ВІЦЕБСКПРАЕКТРЭСТАЎРАЦЫЯ» ЗАВЯРШЫЛІ РАСПРАЦОЎКУ праектна-каштарыснай дакументацыі па аднаўленні знакамітай Благавешчанскай царквы. Дзяржава выдзеліла на адраджэнне Храма паўтара мільярда рублёў.*

САМАЕ ВЯЛІКАЕ АХВЯРАВАННЕ НА РЭСТАЎРАЦЫЮ МІРСКАГА ЗАМКА — выдатнага збудавання беларускага абарончага дойлідства — зрабіў наш суайчыннік са Злучаных Штатаў Амерыкі Анатоль Лук'янчык: 10 тысяч амерыканскіх долараў! Больш за яго ахвяравала толькі ЮНЕСКА...

*РУПЛІЎЦЫ*

# Чыгуначнікі сталіцы — за беларускасць

Да менскага маторавагоннага дэпо прапісаны ўсе цягнікі, што ходзяць ад сталіцы да Оршы, Брэста, Баранавіч і іншых гарадоў рэспублікі. Усіх іх абслугоўваюць брыгады дэпо. Праблемы, якія паўсталі перад транспартнікамі на працягу апошніх гадоў, датычацца, у прыватнасці, і ўжывання дзяржаўнай мовы. Неабходнасць ужывання на транспарце дзяржаўнай мовы была ўспрынята як рэч цалкам нармальная, бо пасажыры прыгарадных цягнікоў — нашы суайчыннікі, грамадзяне Беларускай дзяржавы. Таму ўжо некалькі месяцаў, як на беларускую мову пачалі перакладацца як службовыя дакументы, так і тэксты аб'яў у цягніках. Былі і цяжкасці: хаця большасць машыністаў скончыла беларускія школы, але мовай яны валодалі выключна на побытавым ўзроўні. Гэта, разам з адсутнасцю спецыяльнай тэрміналогіі, ускладніла пераклад. Тады дырэкцыя дэпо звярнулася па дапамогу ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, выкладчыкі якога адрэдагавалі пераклады.

З ініцыятывы кіраўніцтва дэпо беларуская мова гучыць на чыгунцы ўжо некалькі месяцаў. Ёсць, канешне, і хібы. Здараецца, што аб'явы выклікаюць усмешкі пасажыраў. Але ж большасць машыністаў — тутэйшыя, яны дастаткова валодаюць мовай, каб не толькі чытаць тэксты, але і паразумецца з пасажырамі. І ці не самым істотным з'яўляецца тое, што пашырэнне кола ўжывання мовы робіцца не гвалтам. Работнікі чыгункі з



прыхільнасцю ставяцца да вяртання беларушчыне страчанага ёй статуса.

Усё гэта я пачуў ад Мікалая Грыгарэнкі — начальніка менскага маторавагоннага дэпо. Ад яго ж даведаўся аб тым, што ініцыятарам працэсу вяртання мовы стала не начальства. Звяртацца да пасажыраў па-беларуску яшчэ некалькі гадоў таму сталі па ўласнай ахвоце самі машыністы. І першым з іх быў Міхаіл Ляшкоў, машыніст, працоўны стаж якога складае сёння 22 гады. Вось што сказаў ён мне падчас сустрэчы:

— Я нарадзіўся недалёка ад Менска ў вёсцы Дворышча Крупскага раёна. Таму спецыяльна вучыць беларускую мову мне не спатрэбілася — у гады майго дзяцінства яна гучала паўсюдна. Ну а потым, праўда, расійская школа, праца на чыгунцы. Але ж я, як мноства іншых, адчуваў сябе беларусам незалежна ад той мовы, на якой даводзілася гаварыць. І таму ў час, калі толькі абмяркоўваўся Закон аб мовах, у 1989 годзе, мы ўдвух — я і мой памочнік Яўген Чурай — самі для сябе вырашылі рабіць аб'явы ў цягніках па-беларуску. Мы ж ездзілі па сваёй рэспубліцы — да Баранавіч, Асіповіч, Маладзечна, Брэста. Пасажыры ўсе былі мясцовыя. Дык чаму ж не звяртацца да іх на роднай мове? Гэтак і рабілі. Гэта не была прапаганда мовы. Я, дарэчы, не быў і не з'яўляюся сябрам ТБМ. Проста мы бачылі: нашым людзям нестае пачуцця нацыянальнай годнасці. Магчыма, тое, што мы рабілі, было спробай нешта змяніць. Вынікі былі розныя: аднойчы да нас у кабіну зайшоў гісторык і пісьменнік Мікола Ермаловіч і падараваў сваю кнігу. Знаходзіліся, праўда, і такія, што круцілі пальцам ля скроні, затое іншыя людзі заглядалі ў кабіну, каб падзякаваць. І я ўбачыў: ёсць шмат людзей, якія думаюць гэтак жа, як і мы, якія хочуць жыць у сваёй дзяржаве і гаварыць на сваёй мове. Гэта падтрымала нас і падтрымлівае дагэтуль.

**У. ПАНАДА.**
**Фота аўтара.**

## Дзякуем за падтрымку!

**Менскі завод эфектыўных прамысловых канструкцый /дырэктар спадар Аляксандр Сцяпанавіч Давідзенка/ пералічыў на разліковы рахунак Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны дзеля ажыццяўлення статутнай дзейнасці ТБМ добраахвотны ўзнос —адзін мільён рублёў.**

**Выказваем шчырую падзяку ўсяму працоўнаму калектыву завода, яго кіраўніцтву за гэты дабрачынны акт.**

***Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны.***

 



*З афіцыйных крыніц*

## Гомельскі універсітэт: 8 кафедр філалагічнага факультэта

Як паведаміў Міністэрству адукацыі першы прарэктар Гомельскага універсітэта імя Ф.Скарыны сп. М.В.Селькін, на філалагічным факультэце гэтай ВНУ ў бягучым навучальным годзе займалася 850 студэнтаў.

Навучальны працэс на філфаку абслугоўваюць 8 кафедр: беларускай мовы, беларускай літаратуры, англійскай мовы, нямецкай і французскай моў, беларускай культуры, рускай мовы для замежных студэнтаў. На гэтых кафедрах працавалі 117 выкладчыкаў, у т.л.40 — дактары і кандыдаты філалагічных навук.

***

*На кафедрах філфака распрацаваны новыя беларускамоўныя спецыяльныя курсы:*

*— Уводзіны ў беларусазнаўства;*

*— Усходнеславянская міфалогія;*

*— Асновы рыторыкі.*

***

Ва універсітэце вопытныя выкладчыкі і студэнты-філолагі выконваюць адказныя дзяржбюджэтныя тэмы — «Чарнобыль і духоўная спадчына беларусаў», «Заканамернасці функцыяніравання сучаснай рускай мовы ва ўмовах фактычнага беларуска-рускага двухмоўя» і інш.

***

*На філалагічным факультэце не першы год існуе «Фальклорна-этнаграфічная лабараторыя» /кіраўнік дацэнт Новак В.С./ па збору, апрацоўцы і захаванню фальклорных матэрыялаў з раёнаў, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.*

***

Акрамя планавых заняткаў, студэнты-філолагі ўдзельнічаюць у рабоце пяці гурткоў:

— Культура мовы /кіраўнік дацэнт А.Станкевіч/;

— Мовазнаўства /кандыдат філалагічных навук А.Краснова/;

— Літаратурна-крытычны /дацэнт І.Афанасьеў/;

— Этналінгвістычны /дацэнт Ул. Коваль/;

— Пытанні культуры мовы /дацэнт А.Цімашэнка/.

Усе лінгвістычныя дысцыпліны, акрамя спецыяльнасці «Руская мова і літаратура», выкладаюцца на філалагічным факультэце на дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь.

*РУПЛІЎЦЫ*

***Мікола Ермаловіч — аўтар шматлікіх даследаванняў на літаратуразнаўчыя, краязнаўчыя і гістарычныя тэмы. Найбольш вядомыя яго кнігі: «Па слядах аднаго міфа» (1989 г., 1991 г.), «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды» (1990 г.), «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд» (1994 г.). За перадапошнюю кнігу аўтар быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь імя Кастуся Каліноўскага. Галоўная заслуга Міколы Ермаловіча ў тым, што ён выступіў супраць абэцэдаршчыны ў гістарычнай навуцы, ці, інакш кажучы, супраць тых імперска-камуністычных міфаў і догм, паводле якіх Беларусь даўней нібыта ніколі не мела ўласнай дзяржаўнасці, а заўсёды і адвеку толькі бедавала пад іншаземным прыгнётам.***

***Гэта азначала сапраўдны рэвалюцыйны пераварот у айчыннай гістарычнай навуцы. Аўтар прынцыпова новай канцэпцыі развіцця Старажытнай Беларусі стаў жаданым госцем шматлікіх дэмакратычных аўдыторый. Сёння Мікола Іванавіч, як і раней, усяго сябе ахвяруе навуковай працы: амаль кожны дзень сядзіць ён за старымі фаліянтамі ў даўно ім абжытай чытальнай зале Нацыянальнай бібліятэкі, вывучае старонкі гістарычнай Спадчыны беларусаў.***

***Карэспандэнт «Нашага слова» вырашыў сустрэцца са знакамітым гісторыкам, каб пагутарыць аб праблемах нашага далёкага мінулага, якія маюць прамое дачыненне да сучаснасці.***

## ГІСТОРЫЯ — ПАМЯЦЬ — НАРОД

***(Гутарка з гісторыкам і пісьменнікам Міколам Ермаловічам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь)***



**— Мікола Іванавіч, сярод чытачоў «Нашага слова» ёсць вучні вясковых школ, замежныя беларусы ды і ўвогуле людзі, якія, на жаль, пра Вашы кнігі не ведаюць. Адна з прычын гэтага — тое, што яны хутка знікаюць у кнігарнях з паліц. Таму, калі ласка, дзеля знаёмства коратка раскажыце аб сваім лёсе, аб мэтах, якія Вы перад сабой ставілі, беручыся за вывучэнне Старажытнай Беларусі.**

— Я нарадзіўся вясной 1921 г. у в.Малыя Навасёлкі на Койданаўшчыне. Да вайны паспеў скончыць тры курсы беларускага аддзялення літаратурнага факультэта Менскага педінстытута імя Горкага. Дыплом атрымаў у 1947 г. і быў залічаны ў аспірантуру. Тады ж пачаў выступаць у друку з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі. Амаль дзесяць гадоў працаваў выкладчыкам Маладзечанскага настаўніцкага інстытута, нейкі час — загадчыкам метадычнага кабінета Маладзечанскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. З 1958 г. я — інвалід па зроку, і таму вымушаны быў развітацца з выкладчыцкай дзейнасцю. Але з даследчыцкай творчасцю расставацца не думаў. Сур'ёзнае знаёмства з летапісамі — першакрыніцамі старадаўняй гісторыі Бацькаўшчыны — мяне проста ўразіла: як мала мы ведаем аб сваёй роднай мінуўшчыне і як часта тое, аб чым скупа гаворыцца ў падручніках і манаграфіях, зусім не адпавядае гістарычнай праўдзе!

Таму напачатку 60-х гадоў я вызначыў для сябе мэту — вярнуць беларусам страчаную гістарычную памяць ці хоць бы нечым рэальна дапамагчы нашаму люду пазбавіцца нелюбові да даўніны. Дзеля гэтага я пачаў амаль штодзённа ездзіць з Маладзечна ў Менск, каб самастойна вывучаць, аналізаваць старажытныя летапісы і хронікі. У 1968 г. здаў у адно са сталічных выдавецтваў рукапіс кнігі «Па слядах аднаго міфа». У рукапісе на фактах даказвалася, што летапісная Літва не мела нічога агульнага з этнаграфічнай тэрыторыяй Літоўскай ССР, што першая знаходзілася ў Верхнім Панямонні, пачыналася ўжо на Ісланы, за недалёкім ад Менска Ракавам, а ў глыбокай старажытнасці менавіта нашу зямлю называлі Літвой. Я даводзіў таксама, што Полацкае княства з'яўлялася самастойнай палітычнай адзінкай, калыскай беларускай дзяржаўнасці, што этнаграфічныя літоўцы (жмудзіны) беларускіх зямель ніколі не заваёўвалі, а Вялікае Княства Літоўскае ў перыяд росквіту — дзяржава ад Балтыкі амаль да Чорнага мора, дзе пануючае становішча належала беларускай культуры і пісьменнасці, што мы, беларусы, такім чынам з'яўляемся прамымі і асноўнымі нашчадкамі гэтай адной з наймагутнейшых у Еўропе суверэнных і незалежных краін.

Цэнзура кнігу забараніла. Не дапамагла нават падтрымка акадэміка Пятра Глебкі. Рукапіс чакаў свайго часу роўна 21 год. Але я не апускаў рукі, збіраў новыя матэрыялы...

**— Тое, што Вы здзейснілі ў гістарычнай навуцы, Мікола Іванавіч, вельмі многія лічаць навуковым подзвігам у імя Бацькаўшчыны. Чаму менавіта Вам удалося разбурыць злачынныя антыбеларускія міфы, якія правілі баль у нашай старажытнай гісторыі, а ўсім кандыдатам, дактарам, акадэмікам адпаведнай спецыялізацыі — не?**

-- Па-першае, Вы вельмі трапна назвалі гэтыя міфы «злачыннымі і антыбеларускімі». Сёння яшчэ пашырана памылковая думка, што старажытнасць не мае ніякага дачынення да сучаснасці, што яна — ззаду, згінула, спарахнена — і кропка. Але на самай справе цяперашні нацыянальны нігілізм беларусаў грунтуецца якраз на гістарычным бяспамяцтве мільёнаў. Ён — адзін з вынікаў тых афіцыйных міфаў, якія сцвярджалі, напрыклад, што мы даўней ніколі не мелі сваёй уласнай дзяржавы: спачатку былі ў складзе Кіеўскай Русі, затым — пад Літвой і Польшчай. Таму мы раней нібыта толькі і марылі, каб зноў «аб'яднацца з вялікім рускім народам» (з якім, дарэчы, у адной дзяржаве да падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII ст. разам ніколі не жылі). Злачынная накіраванасць, сутнасць і мэты падобных міфаў ані не выклікаюць сумненняў: укласці ў вушы беларусам, што яны ўвогуле практычна не здатны існаваць самастойна, што гістарычны лёс наканаваў ім цярпець іншаземнае панаванне. А ці можна любіць такое горкае мінулае?..

*(Заканчэнне на с.3.)*

*РЭХА*

## ПРЫЗНАННІ ПРАГРЭСІЎНАГА ІМПЕРЫЯЛІСТА З КРАМЛЯ

Аляксандр Ліўшыц назваўся імперыялістам сам. Канешне, крыху з іроніяй. Але мы даём гэтае слова без двукоссяў. Гэтак жа як і прыметнік «прагрэсіўны», бо хутчэй за ўсё гэта дзеяч сапраўды прагрэсіўны. А што глыбока дасведчаны ў сваёй справе, высокаадукаваны і вельмі ўплывовы ў вышэйшым кіраўніцтве Расіі — бясспрэчна. Дастаткова сказаць, што А.Ліўшыц — кіраўнік групы экспертаў пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі. Калі ўсур'ёз думаць аб выжыванні беларусаў як нацыі, варта, на наш погляд, вельмі ўважліва паставіцца да меркаванняў гэтага неардынарнага спецыяліста. Тым болей, калі ён гаворыць пра нас і пра тое, чаму, нягледзячы на, здавалася б, вялікія ідэалагічныя несупадзенні, расійскія кіруючыя колы да «апошняга патрона» стараліся абараніць В.Кебіча. Ды і зараз, здаецца, яго ў крыўду нашым палымяным змагарам з карупцыяй не дадуць.

У гэтым сэнсе немалую цікавасць для нас уяўляюць адказы А.Ліўшыца на пытанні карэспандэнта «Литературной газеты» А.Мароза (ЛГ, № 28 ад 13.07.94 г.). Звернем увагу ўвогуле на тое, як ставяцца ў Расіі інтэлектуальныя колы (ды, відаць, і большасць насельніцтва) да папрашайніцтва ды паддобрывання нашага вышэйшага кіраўніцтва. Такім чынам у вачах расіян намі страчана многае, нездарма там ужо не могуць успрымаць без смеху напамін, што мы ж «браты». Народная мудрасць, дарэчы, даўно стварыла для такой сітуацыі адпаведнае павучанне-афарызм: «Брат ты мой, але еш хлеб свой».

Прыводзім урывак са згаданага інтэрв'ю.

**— Пасля таго, як наш сябра Кебіч правалілся ў першым туры на прэзідэнцкіх выбарах,.. Чарнамырдзін працягваў з ім гульні па аб'яднанні грашовых сістэм і нават фарсіраваў іх. Ясна, што з эканамічнага пункту гледжання Расію тут чакаюць адны выдаткі (адчуваеце псіхалагічны настрой расійскага інтэлектуала? —У.А.). Стаўка робіцца на нейкія палітычныя выгады. Але што за выгады ад збліжэння з рэспублікай, якая так і не здолела скінуць з сябе камуністычны мундзір, канвульсіруе ў абдымках камуністаў? Якія парады вы даяце наконт гэтага прэзідэнту? Як ён іх успрымае?**

— На гэтую тэму я нічога не раіў прэзідэнту. Ніколі з ім пра гэта не размаўляў і нават нічога не пісаў. Адносна маёй пазіцыі... У гэтых пытаннях я, страшна прамовіць, імперыяліст. Проста зыходзячы з гістарычных меркаванняў. Расія ж не зможа быць іншай краінай, чымся яна ёсць. І няма чаго тут самападманвацца. Яна не можа стаць маленькай недалучанай краінай. Якая яна ёсць, такую яе і трэба спажываць. Што да аб'яднання грашовых сістэм, чэсна кажучы, мне гэта не вельмі сімпатычна — па той простай прычыне, што развіццё рэформ у розных краінах СНД ідзе па-рознаму. Я кажу зараз не толькі пра Беларусь. Мне не хочацца жыць у краіне, да якой — у форме канфедэрацыі ці якой іншай — далучаецца бальшавіцкая рэспубліка. Не хочацца. Мы стаміліся ад гэтага. Мы лепей як-небудзь самі. Што значыць агульная валюта? Трэба ж называць рэчы сваімі імёнамі. Адзіная рублёвая зона — гэта значыць, што, безумоўна, беларусы павінны паступіцца часткаю суверэнітэту. І тут не трэба віляць. Якой часткаю суверэнітэту? Ясна: эмісійная функцыя павінна быць засяроджана ў адным цэнтры. Вельмі сур'ёзнай павінна быць каардынацыя бюджэтаў ці кантроль над іхнім бюджэтам. А як іначай? Там раздуюць вялізны дэфіцыт і запатрабуюць грошы пад яго пакрыццё. А ўсе ж грошы, якія куды-небудзь ідуць, потым вяртаюццаў адно месца, якое называецца Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржай. А каму гэта трэба сваімі ж рукамі забіваць уласную валюту? Калі тут плануюцца дакладныя палітычныя намеры — скажам, стварэнне канфедэрацыі, — тады хоць ва ўсёй гэтай дзейнасці ёсць логіка. У тым ліку і ў абмежаванні суверэнітэту. Але калі перамяшчэнне расійскага багацця ў іншую краіну мяркуецца ажыццяўляць з простага чалавекалюбства, такой матывацыі недастаткова: нацыянальнае багацце — гэта ж не твая асабістая ўласнасць. Калі ты хочаш некаму дапамагчы — аддай уласныя грошы, здай кроў на медыцынскія патрэбы... Я вялікі прыхільнік такога стану рэчаў, каб заўсёды эфектыўна абараняліся інтарэсы дзяржавы... Я за канфедэрацыю...

**— Вы за канфедэрацыю ў рамках былога СССР?**

— Як атрымаецца.

**-- Вы толькі што сказалі, што супраць канфедэрацыі з бальшавіцкімі рэспублікамі.**

— Безумоўна. Канфедэрацыю павінны стварыць дэмакратычныя краіны.

**— Канфедэрацыя на дэмакратычным рыначным грунце?**

— Так, можна сказаць, так.

Сказаць, яно, канешне, можна, у тым ліку пра канфедэрацыю, але і здань імперскасці, няхай сабе на нейкай звышдэмакратычнай ды рынкавай аснове, нікуды яна не падзенецца — так ужо наканавана лёсам нашай вялікай суседцы.

**Ул.АСІНАЎСКІ.**

 

# СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ!

*Шаноўная рэдакцыя! У газеце я адразу заўважыў гэты матэрыял. Што і казаць, шчырыя словы Уладзіслава Жыгалкі, яго любоў да нашай Айчыны, увасобленая ў вершы «Жыве Беларусь!», узрушылі мяне. Мне здаецца, гэта рэальнасць, маючы такую аснову, цяпер разам, грамадою стварыць новы і сапраўдны Гімн Беларусі.*

*Са свайго боку, уношу наступныя прапановы:*

*У другім радку замест «заўсёды» напісаць «заўжды».*

*У 4-м: «сцяг» — з вялікай літары.*

*У 6-м: замест «Бог захавае» — «Мы захаваем».*

*У 8-м: «Жыве» ўсё ж варта напісаць з малой літары.*

*У 9-м: напісаць радок у рэдакцыі «Праца народа, моц і свабода».*

*У 11-м: напісаць «народа» (замест канчатка «ў» даць «а»).*

*У 14-м зноў: замест «Бог захавае» — «Мы захаваем».*

*У 16-м зноў «жыве» — з малой літары.*

*У 22-м — тое ж, што ў 6-м і 14-м.*

*У 24-м — тое ж, што і ў 16-м.*

*Дарэчы, чаму я Бога прапаную змяніць на «Мы». Зусім не з атэістычнага пункту гледжання. Проста, мяркую, трэба падкрэсліць: ніхто, акрамя нас, не здабудзе ні незалежнасць, ні наша шчасце! Урэшце, каб Бог быў міласцівы да беларусаў, то ён не аддаў бы наш народ, нашы этнічныя землі на «з'яданне» суседзям.*

*Час такі, што не трэба глядзець на нябёсы, а самім рабіць сваё жыццё і лад, таму і трэба памяняць Бога на Мы, г. зн. на нас з вамі!*

*З павагаю!*

***Міхась Маліноўскі,***
*правадзейны член Геаграфічнага таварыства.*
*г.Баранавічы*

# РУПЛІЎЦЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 2.)*

У выніку міфы нараджалі ў масах думку, што адзіны паратунак з іх бязвыхаднага становішча — рашуча выракціся рэштках усяго беларускага (нацыянальнай культуры, звычаяў, матчынай мовы), каб стаць часткай таго народа, чыя дзяржава над імі пануе (пасля згаданых падзелаў — непадзельна Расія). Апісаную сітуацыю выдатна адлюстраваў геніяльны Янка Купала ў п'есе «Тутэйшыя». А бальшавікі, якія дэмагагічна абвясцілі сябе змагарамі з каланіяльнай палітыкай царызму, наадварот, узвялі гэтыя злавесныя міфы ў абсалютную догму, у афіцыйную ідэалагічную лінію партыі. Вынікам стала тое, што на нашай зямлі русіфікатары дасягнулі такіх поспехаў, як нідзе.

Па-другое. Не адно дзесяцігоддзе я даволі плённа працаваў літаратурным крытыкам, літаратуразнаўцам. Галоўная задача крытыка — умець як след учытвацца ў тэксты твораў, каб беспамылкова ўбачыць тое, што схавана за радкамі. Старажытныя летапісы — таксама спецыфічныя літаратурныя творы. Што да афіцыйных, найперш акадэмічных гісторыкаў, то яны дзесяцігоддзямі працавалі пад штодзённым пільным і падазроным партыйна-дзяржаўным кантролем, які, бясспрэчна, для любога творцы задушлівы.

Мной не кіраваў ніхто. Было адно жаданне: не зважаючы ні на што, увасобіць сваю запаветную мару — пазбавіць цэлы народ жахлівага бяспамяцтва, што ператворыць сярэднестатыстычнага жыхара ў нацыянальна свядомага Грамадзяніна з развітым пачуццём уласнай чалавечай годнасці ўжо толькі праз тое, што ён — беларус!

**— Даруйце, шаноўны Мікола Іванавіч, але ў інтарэсах чытачоў я павінен паставіць і калючае, відаць, малапрыемнае для Вас пытанне. Маецца на ўвазе стаўленне да вынікаў Вашых гістарычных даследаванняў, якія ўжо атрымалі поўнае грамадскае і нават высокае дзяржаўнае прызнанне нашай афіцыйнай гістарычнай навукі.**

— У мяне з імі даўні «раман» з пастаянным працягам, бо фактамі з летапісаў я закрэсліваю ледзь не ўсё тое, што дзесяцігоддзямі сцвярджалі яны. Я не зласлівец, але варта, відаць, нагадаць, што, напрыклад, яшчэ ў 1981 г. на адным з пасяджэнняў вучонай рады Інстытута гісторыі АН БССР доктар навук З.К. прапанаваў кіраўніцтву неадкладна звярнуцца ў ЦК КПБ з хадайніцтвам, каб мне забаранілі друкавацца. Там прысутнічаў і цяперашні дырэктар інстытута, які падтрымаў прапанову. Гэта мне дакладна вядома. Праўда, тады ЦК вытрымліваў доўгую паўзу. Але праз нейкі час мяне тройчы выклікалі ў КДБ, дзе абмежаваліся папярэджаннем за тое, што, паводле іх інфармацыі, я працую над даследаваннямі, дзе спрабую даказаць гістарычныя карані дзяржаўнай самастойнасці беларусаў. Даволі мяккае абыходжанне са мной супрацоўнікаў КДБ тлумачыцца проста: за вокнамі надвор'е стаяла ўжо не такое, каб расправіцца сілай.

У чым мяне раней толькі ні абвінавачвалі афіцыйныя гісторыкі: поўнае ігнараванне архіваў, замоўчванне пэўных гістарычных фактаў, ваяўнічы нацыяналізм, падбор фактaлогіі пад загадзя падрыхтаваныя схемы і г.д. Нават яўныя станоўчыя бакі маіх даследаванняў спрабавалі перакруціць на мінусы. Чытачы не раз пераконваліся, што я заўсёды карыстаўся вельмі значнай колькасцю дакументальных крыніц. Дык вось, гэта спрабавалі падаць як неакрэсленасць крыніцазнаўчай базы. Прычым наскокі звычайна рабіліся не ў форме адкрытай дыскусіі, крытыкі, не на прамую, а спадцішка. Але ж давайце спынімся на пералічаных «аргументах» нашых вучоных мужоў.

Я, сапраўды, у архівах не працаваў. Зрэшты, такая патрэба не ўзнікала, бо там зберагаюцца дакументы, пачынаючы толькі з канца XIV ст. і пазней. Гэты перыяд знаходзіўся па-за межамі маіх інтарэсаў. Падзеі ж да пачатку XV ст. усебакова апісаны ў даўно апублікаваных летапісах. Пра замоўчванне некаторых летапісных фактаў, падбор фактaлогіі пад штучныя схемы, чым я нібыта хвацка займаюся, мы, спадзяюся, пагаворым ніжэй. Што да нацыяналізму, то я ўпэўнены: гэта слова з'яўляецца сінонімам высакароднага, святога паняцця «патрыятызм». Якраз апошняга нашым гісторыкам пакуль не хапае.

**— Няўжо, Мікола Іванавіч, пазіцыя афіцыйных гісторыкаў не змянілася нават тады, калі Вы атрымалі Дзяржаўную прэмію?**

— Яны маўчалі, нібы з поўнымі ратамі вады.

**— Чым жа гэта тлумачыцца?**

— Перш-наперш тым, на мой погляд, што акадэмічныя гісторыкі зусім не чакалі паяўлення новай канцэпцыі развіцця Старажытнай Беларусі і таму аказаліся абсалютна не падрыхтаванымі да ўспрыняцця яе. А самі, глыбока засвоіўшы навуковападобныя міфы, не змаглі ўзняцца вышэй за іх. Дарэчы, падкрэслю, што не было ніводнага выпадку, каб зробленыя ў маіх даследаваннях высновы крытыкаваліся са спасылкамі на адпаведную гістарычную фактaлогію, на летапісныя крыніцы. Каб я хоць дзе-небудзь дапусціў якую істотную памылку, нешта пераблытаў ці, напрыклад, спаслаўся на сумніўную, малааўтарытэтную цытату з летапісаў, то мае апаненты, не марудзячы, узнялі б вэрхал, абвінаваціўшы ва ўсіх смяротных грахах.

Заўважу таксама, што апошнім часам у адносінах да мяне акадэмічныя гісторыкі змянілі ранейшую тактыку. Новую канцэпцыю Старажытнай Беларусі яны, з аднаго боку, спрабуюць зараз прыпісаць сабе, а з другога, працягваюць цкаваць яе распрацоўшчыка.

**— Якім жа чынам гэта робіцца?**

— Даволі адкрыта і безапеляцыйна, нават з нахабствам. Так, выступаючы па радыё, дырэктар Інстытута гісторыі АН сп. М.Касцюк падкрэсліў, што ў першай частцы акадэмічных «Нарысаў па гісторыі Беларусі», якія толькі-толькі ўбачылі свет, нібыта ўпершыню выкладзены нацыянальны погляд на нашу гісторыю. Гэта, мякка кажучы, не так, бо ў «Нарысах» толькі атрымалі развіццё мае ранейшыя думкі. А зусім нядаўна ў друку да мяне ўжо прычапілі ярлыкі «даследчыка-самавука», «пачынальніка школы інтуітывістаў», якія не выкарыстоўвае вялікай колькасці крыніц, што супярэчаць ягонай канцэпцыі.

Бог ім суддзя! Але ўсё ж адзначу, што я не абыходжу і тыя крыніцы, якія прама не ўпісваюцца ў новую канцэпцыю Старажытнай Беларусі. Напрыклад, зусім не збіраўся замоўчваць сцвярджэнне вядомага рускага гісторыка Тацішчава (ён карыстаўся летапісамі, якія да нас не дайшлі), што палачане (веча) у 1129 г. выдалі сваіх князёў кіеўскаму князю Мсціславу Уладзіміравічу. Згаданы факт, безумоўна, малапрыемны для мяне, як для даследчыка. Абапіраючыся на іншыя гістарычныя крыніцы, я толькі даў яму адпаведнае тлумачэнне. Справа ў тым, што напярэдадні палачане адмовіліся разам з Мсціславам ісці на полаўцаў. Апошні затаіў на іх крыўду, а калі разбіў полаўцаў, то прыслаў да Полацка сваіх ваявод. Палачане палічылі за лепшае адкупіцца некалькімі князямі, але не ўсімі, каб мясцовая дынастыя Рагвалодавічаў захавалася. Дарэчы, гэты факт яскрава сведчыць, што ў Полацку цудоўна ўсведамлялі адасобленасць уласных знешнепалітычных інтарэсаў, адметных, а то і супрацьлеглых інтарэсам Кіева. Не замоўчваў я і, напрыклад, рэзка адмоўную характарыстыку князя Глеба Менскага, дадзеную Т.Нарбутам.

**— Мікола Іванавіч, выкладзіце тэзісна свае погляды на гісторыю зараджэння, развіцця і станаўлення беларускай мовы.**

— Беларуская мова пачала фарміравацца з перыяду славянскага засялення тэрыторыі нашай дзяржавы (VI—VII стст.). На гэтай зямлі існавалі лакальныя народнасці: палачане, палешукі, крывічы, а ў Панямонні — ліцвіны. У XIII ст. з утварэннем Вялікага Княства Літоўскага пачалося фарміраванне адзінай беларускай народнасці. Ужо тады ў жыцці існавалі ўсе адметнасці і асаблівасці нашай мовы. Апошняе першым адзначыў яшчэ акадэмік Я.Карскі. На XV—XVI стст. прыпадае сапраўдны росквіт беларускай мовы. Гэта выдатна ўвасоблена ў кнігах Ф.Скарыны і С.Буднага і, асабліва, у Статуце 1588 г. Да слова, сам укладальнік Статута канцлер Леў Сапега пісаў, што мы можам ганарыцца, бо пішам законы на сваёй мове. Сапраўды, наш Статут — беларускамоўны, хоць тады ў большасці краін Заходняй Еўропы юрыдычныя нормы пісаліся на лацінскай мове.

З 1697 г. пачынаецца атака на беларускае слова, на беларускую культуру, бо вярхі Польшчы пераканаліся, што самастойнасць і адасобленасць Вялікага Княства ў складзе Рэчы Паспалітай у немалой ступені грунтуецца на панаванні ў Княстве беларускай культуры. У наступным стагоддзі наша мова ўжо ператвараецца толькі ў мову гутарковую.

**— Апошняе пытанне, Мікола Іванавіч. Якой вам бачыцца будучыня беларускага слова?**

— Наша мова, безумоўна, мае будучыню. Сумнявацца ў гэтым — абсурд. Хоць бы таму, што праз стагоддзі яна захавалася, выжыла, не зважаючы на самыя неспрыяльныя, проста жудасныя гістарычныя варункі. Заўважу таксама, што хоць суверэнітэт БССР і з'яўляўся папяровым, дэкларатыўным, але сам факт яе існавання спрыяў захаванню роднай культуры і мовы.

Цяпер не сціхаюць спрэчкі, мы ніяк не вырашым, якой граматыкай — Б.Тарашкевіча ці так званай наркомаўкай — нам надалей карыстацца? А я ўпэўнены, што зараз граматыку мяняць нельга, бо гэта толькі раз'яднае народ. Таму лічу, што цяпер у галіне культуры і асветы трэба ўсяляк пашыраць усё сапраўды беларускае, нацыянальнае. Прапагандаваць і ўкараняць усё лепшае, што ў беларускай культуры ўжо ёсць: творы літаратуры і мастацтва, народныя традыцыі, увогуле — яе вялікасць нацыянальную Спадчыну.

Гутарыў **Мар'ян ВІЖ.**

## ГІСТОРЫЯ — ПАМЯЦЬ — НАРОД



 БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## ЭСТОНІЯ: ІНШЫМ РАЗАМ ПРОСЯЦЬ ПРАЧЫТАЦЬ ПА РАДЫЁ ПРОСТА КАЗКІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Зпачатку 1990 года на Эстонскім радыё пачала гучаць беларуская мова. Пытання, як назваць перадачу, не стаяла. Яна адразу пачала выходзіць у эфір пад назвай "Бацькаўшчына".

У гэты час Эстонія абвясціла сябе незалежнай краінай. Заснавальнікі нашай радыёперадачы Лявон Валуй, Сяргей Сотчанка і іншыя падтрымалі барацьбу эстонскага народа за незалежнасць. У выніку ў Эстоніі да нас, беларусаў, ставяцца з паразуменнем і паважаюць усіх, хто памятае свае карані, гісторыю, мову.

Спачатку нам выдзелілі толькі 30 хвілін вяшчання ў месяц, потым столькі ж у тыдзень. Затым час у эфіры павялічыўся да адной гадзіны ў тыдзень. Зараз працуем па 45 хвілін у тыдзень на беларускай мове, але кожны тыдзень інфармацыя з Беларусі гучыць і ў перадачах на рускай мове.

Перашкод з боку адміністрацыі Эстонскага радыё не было. Наадварот, амаль усе рэдактары перадач на рускай мове вельмі цікавяцца беларускай тэматыкай, і мы прапануем свае матэрыялы.

Станаўленню нашай радыёперадачы "Бацькаўшчына" дапамагалі вядомыя ў Беларусі журналісты радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" Віталь Сямашка, Уладзімір Давыдоўскі, Таццяна Сапач, якая зараз жыве і працуе ў Вільні, Таццяна Дубавец — журналіст газеты "Наша ніва" з Вільні. Яны перадавалі нам вельмі цікавыя матэрыялы па гісторыі Беларусі, рэфармацыі царквы на Беларусі, музычна-фальклорныя; мы атрымалі шмат інтэрв'ю з гісторыкамі, навукоўцамі, акцёрамі, спевакамі, пісьменнікамі, таксама дапамаглі нам з набыццём музычнай фанатэкі.

Апрача таго, пакуль не было межаў, мытняў, была агульная рублёвая зона, да нас маглі прыязджаць цікавыя людзі, напрыклад актрыса Таццяна Мархель, бард-спявак Алесь Камоцкі і іншыя спевакі, інтэрв'ю з якімі прагучалі ў нашых перадачах.

Зараз усё складаней. Нашы сябры не могуць атрымаць візу на ўезд у Эстонію, а мы не маем сродкаў, каб каго-небудзь запрасіць да сябе. У сённяшніх умовах мы вымушаны самі шукаць матэрыялы для перадач. Скарыстоўваем усё, што маем у асабістых бібліятэках: газеты, часопісы, мастацкую літаратуру, народныя календары, расказваем аб дзейнасці Таварыства беларускай культуры ў Таліне. А я асабіста стараюся браць як мага больш інтэрв'ю ў суайчыннікаў, якія жывуць у Эстоніі.

У мінулым годзе мне давялося пабываць на Першым з'ездзе беларусаў свету, і менавіта з гэтага часу пачалася плённая праца нашага калектыву, таму што з'явілася магчымасць набыць даволі значную бібліятэку, зрабіць цікавы музычны матэрыял на святкаванні Купалля і запісаць некалькі інтэрв'ю.

Але ўзніклі і складанасці. Нашы радыёслухачы пачалі больш патрабавальна да нас ставіцца, таму што заўважылі, што мы можам працаваць на прафесійным узроўні. Але ніхто не пацікавіўся, у якіх умовах мы працуем. Да кастрычніка мінулага года мы працавалі толькі ўдваіх. А ў кастрычніку да нашага калектыву далучыўся яшчэ адзін чалавек — спецкарэспандэнт у Менску, які кожны тыдзень перадае нам навіны. З сакавіка гэтага года ў наш калектыў прыйшлі яшчэ два здольныя чалавекі, нягледзячы на тое, што заробку ад сваёй працы мы не маем. У нас згуртаваўся сапраўдны калектыў энтузіястаў, фанатыкаў сваёй справы, якія ахвяруюць сваім вольным часам і матэрыяльным становішчам. На жаль, тых, хто раней прапаноўваў сваё супрацоўніцтва, хапала не больш чым на працу ў дзвюх перадачах, таму што пераважала матэрыяльная зацікаўленасць. Зразумела, без матэрыяльнай падтрымкі не мае сэнсу працаваць. Апрача таго, для працы нам патрабуецца прафесійны магнітафон, якога мы не маем, пастаянна патрэбны сродкі на набыццё пласцінак, касет, літаратуры і проста паперы і алоўкаў. Неабходны сродкі і для камандзіровак, каб сустракацца з суайчыннікамі ў іншых гарадах Эстоніі і запісу інтэрв'ю з імі.

У пачатку года мы наладзілі добрую сувязь з таварыствам "Радзіма", якому вельмі ўдзячны за дапамогу, — мы пачалі атрымліваць газету "Голас Радзімы" — адзіны сродак масавай інфармацыі з Беларусі. Цікавую інфармацыю з гэтай газеты мы скарыстоўваем у сваіх перадачах.

Я асабіста ўдзячна супрацоўнікам таварыства "Радзіма" за арганізаваную для мяне стажыроўку на Беларускім радыё, якую я праходзіла з 23 красавіка па 23 траўня, а ў ролі фундатара выступіла Таварыства беларускай культуры ў Таліне.

Паколькі наша радыёперадача мае культурна-асветніцкі накірунак, то мы вельмі ўважліва падбіраем тэмы, імкнёмся задавальняць просьбы нашых радыёслухачоў. У эфіры ў апошні час прагучаў цыкл перадач, прысвечаных пісьменнікам — ахвярам сталінскіх рэпрэсій ці сведкам рэпрэсій; цыкл перадач пад назвай "Нашы славутыя землякі", прагучаў цыкл "Архітэктура Беларусі" і перадачы, прысвечаныя вядомым беларускім паэтам, музыкантам, мецэнатам. Не забываемся пра народную творчасць, фальклор, расказваем аб беларускіх абрадах, святка-ваннях, парадах з народных календароў. А самае галоўнае — гэта беларуская мова, якой мы больш за ўсё ўдзяляем часу. Цыкл перадач, прысвечаных беларускай мове, напэўна, самы працяглы. На жаль, мы вымушаны былі зняць дзіцячую старонку, таму што ў апошні час нашы перадачы пачынаюцца позна, у 22 гадзіны 15 хвілін.

Паколькі Эстонія адключыла тэлеперадачы "Астанкіна" і Расійскага тэлебачання і шмат рускамоўнага насельніцтва засталося без інфармацыі, колькасць радыёслухачоў нашай перадачы значна павялічылася. Сярод нашых радыёслухачоў паявіліся палякі, украінцы, рускія і яўрэі, паходжаннем з Беларусі. Да нас часта пачалі звяртацца з рознымі цікавымі прапановамі. Актывізавалася дзейнасць сяброў Таварыства беларускай культуры, з якімі калектыў радыёперадачы мае агульныя мэты і цесна супрацоўнічае. У апошні час вельмі часта просяць выканаць заяўкі і не толькі музычныя, просяць проста пачытаць казкі Уладзіміра Караткевіча. Гэта больш сталае пакаленне, якому родная беларуская мова грэе душу і сэрца.

Але, на жаль, сярод суайчыннікаў ёсць і такія, хто варожа ставіцца да нашай радыёперадачы і калектыву. Гэта так званыя "рускамоўныя беларусы", былыя камуністы, лідэры інтэрруху, былыя вайскоўцы, якія раней кіравалі "масамі", але страцілі свае пасады і пазіцыі ў сувязі з забаронай дзейнасці кампартыі і інтэрруху ў Эстоніі і цяпер не знаходзяць сваё месца ў новым жыцці, не здольны прыкласці рукі да карыснай справы, якім усё беларускае прыкра і не міла. Яны глядзяць на нашу радыёперадачу як на магчымы рупар для сваіх прапагандысцкіх лозунгаў.

Хацелася б спадзявацца, што ў гэтых людзей калі-небудзь усё ж прачнецца нацыянальная свядомасць і адбудзецца аб'яднанне беларусістаў з рускамоўнымі беларусамі, таму што мы — дзеці адной краіны, аднаго народа.

А ўканцы сваёй інфармацыі хачу дадаць, што мы з Таварыствам беларускай культуры маем намер павялічыць працягласць перадачы, палепшыць якасць і выдзеліцца з рэдакцыі нацыянальных перадач у асобную беларускую рэдакцыю.

**Вольга ГАЛАВАШКІНА,**
карэспандэнт Эстонскага радыё, сябар праўлення Таварыства беларускай культуры ў Таліне.

## "ГОЛАС ЧАСУ"

Нядаўна выйшаў з друку ліпеньска-жнівеньскі нумар беларускамоўнага царкоўна-грамадскага часопіса пад такой назвай, які ўжо шосты год выдаецца ў Лондане. Ён адкрываецца паведамленнем аб тым, што 26 траўня бягучага года беларускі пасол Уладзімір Сянько ўручыў свае вярыцельныя граматы Яе Вялікасці Каралеве Вялікабрытаніі Елізавеце II. Тут жа змешчаны зварот У.Сянько да рэдактара "Голасу часу" Ю.Весялкоўскага, дзе Пасол Рэспублікі Беларусь выказвае шчырае прывітанне чытачам часопіса, усім брытанскім беларусам, якія на працягу дзесяцігоддзяў свайго жыцця ў Англіі ніколі не забываліся пра сваю далёкую Радзіму і таму "сэрцам і душой працягваюць адчуваць сябе беларусамі".

Ва ўступным артыкуле даволі падрабязна асвятляецца дыпламатычная працэдура ўручэння вярыцельных грамат Паслом, яго афіцыйныя сустрэчы з міністрамі і аўдыенцыя ў Каралевы.

З астатніх палітычных матэрыялаў асаблівую ўвагу прыцягвае невялікая, але вострая злабадзённая нататка М.Бублікава "Хто гаспадар на беларускай зямлі?" Аўтар, які пастаянна глядзіць тэлеперадачы з "Астанкіна", лічыць, што ідэалогія расійскай "Памяці" – ваяўнічы вялікарускі шавінізм. М.Бублікаў ставіць пытанне: чаму рускія, якія не хочуць, каб імі кіравалі чужынцы (супраць чаго змагаецца "Памяць"), паводзяць сябе на Беларусі (ды і не толькі тут) зусім інакш, чым хацелі б, каб паводзілі ўсе нацменшасці сябе ў іх, у Расіі? І далей дае адказ, што беларусы ў гэтым вінаваты самі, бо дазваляюць аплёўваць тых, хто на Бацькаўшчыне рашуча бароніць наша святое права мець сваю культуру, звычаі, родную мову.

З гістарычных матэрыялаў гэтага нумара часопіса варта адзначыць артыкул беларускага гісторыка Сяргея Таляронка "Грамадска-палітычны рух на Беларусі напярэдадні вайны 1812 г." Тут аўтар ці не адным з першых у айчыннай гістарыяграфіі аргументавана сцвярджае, што большасць беларускай шляхты ў згаданы перыяд падтрымлівала польскую нацыянальную ідэю адраджэння Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, якую наша шляхта лічыла сваёй радзімай, а Расія з'яўлялася для яе захопнікам, ворагам. Праўда, С.Таляронак падкрэслівае, што Напалеон зусім не апраўдаў спадзяванняў і польскай і беларускай шляхты, якая звязвала з ім чаканне ўзнаўлення былой дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай, бо створанае на тэрыторыі Польшчы французскім імператарам герцагства Варшаўскае заставалася сатэлітам Францыі. Тым не менш, гісторык прыходзіць да высновы, што ў ходзе франка-рускай вайны 1812 г. Напалеон I сустрэў на Беларусі моцную падтрымку з боку шляхты і памешчыкаў, сялян, а таксама тутэйшага каталіцкага духавенства.

Адзін з чытачоў у сваім допісе ў рэдакцыю, каменціруючы гутарку карэспандэнта газеты "Голас Радзімы" В.Чаркасавай з Часовым паверанымі ЗША ў Рэспубліцы Беларусь сп. Дж.Кролем (матэрыял друкаваўся ў № 27 "Нашага слова" са спасылкай на менскую газету "Свабода"), паведамляе, што ў Вялікабрытаніі, як і ў Амерыцы, яшчэ вельмі мала ведаюць пра Беларусь. Аналагічная сітуацыя назіраецца і ў іншых краінах Заходняй Еўропы. Таму добрую справу зрабіў нехта ў ЗША, выдаўшы па-англійску невялічкую (56 старонак са здымкамі), цудоўна аформленую кніжачку, прысвечаную нашай дзяржаве. Але аўтар допіса звяртае ўвагу на асобныя прыкрыя памылкі і гістарычныя недакладнасці, якія ёсць у гэтым вельмі карысным і каштоўным новым амерыканскім выданні.

У "Голасе часу" публікуецца працяг грунтоўнага даследавання Ю.Свяжынскага "Галасы аб "Вялікай Айчыннай вайне" і ўдзеле ў ёй савецкіх і польскіх партызан". Аўтар, у прыватнасці, лічыць, што найбольш праўдзівай кнігай аб Другой сусветнай вайне на Беларусі з'яўляецца гістарычная манаграфія польскага навукоўца Юры Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй".

У пастаяннай рубрыцы часопіса "З друку" даецца кароткі агляд найбольш цікавых паведамленняў перыядычных выданняў Рэспублікі Беларусь. Так, народны паэт Беларусі Пімен Панчанка ў сваім матэрыяле "Хітрасць русіфікатараў", які друкаваўся на Бацькаўшчыне, выступае супраць таго, што ў новым беларускім пашпарце не прадугледжана графа "нацыянальнасць". П.Панчанка мяркуе, што гэта страшэнная знявага нацыянальнай годнасці беларусаў, якія ўжо вельмі доўга церпяць ад прымусовай русіфікацыі. Нельга нават уявіць, абураецца народны паэт, каб грузін ці армянін, латыш ці эстонец адмовіўся ад сваёй нацыянальнасці. А ў нас? На думку П.Панчанкі, увядзенне новых беларускіх пашпартоў без пазначэння там нацыянальнай прыналежнасці грамадзян – чарговае нахабнае злачынства сучасных русіфікатараў.

Завяршальным акордам апошняга візіту Старшыні Вярхоўнага Савета М.Грыба ў Страсбург, дзе адбыліся яго сустрэчы ў Еўрапарламенце, стала прызнанне беларускага спікера ў сродках масавай інфармацыі, што ў Заходняй Еўропе па-ранейшаму цвёрда лічаць: на Беларусі не адбываецца ніякіх істотных змен, і таму рэспубліка застаецца таталітарнай дзяржавай. У часопісе таксама адзначана, што беларуская дэлегацыя без асаблівага поспеху спрабавала ў Страсбургу ўзняць пытанні аб павелічэнні квоты на імпарт з Беларусі ў краіны ЕС тэкстылю і калійнай солі, аб фінансавай падтрымцы працэсаў раззбраення ў рэспубліцы.

На заканчэнне падкрэслім, што хоць "Голас часу" з'яўляецца, як гэта пазначана на вокладцы, беларускамоўным царкоўна-грамадскім перыядычным выданнем у Вялікабрытаніі, але матэрыялаў царкоўнай тэматыкі ўжо ў некалькіх яго нумарах амаль зусім няма. Зрэшты, гэта і зразумела, бо сучаснае грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі характарызуецца напружанасцю і абвостранасцю, а царква павінна знаходзіцца па-за палітыкай, быць вышэй за яе. І яшчэ. На жаль, ва ўмовах цяперашняга глыбокага эканамічнага крызісу Беларусі атрымаць лонданскі "Голас часу" на Бацькаўшчыне надзвычай складана, а шырокаму колу чытачоў – нават немагчыма. Таму і зроблены разгорнуты пераказ асноўных матэрыялаў ліпеньска-жнівеньскага нумара часопіса.

**М.В.**

## "БЕЛАРУС"-413

У нашай краіне цяпер свабодна распаўсюджваецца нью-йоркскі "Беларус" – старэйшая і, відаць, найбольш аўтарытэтная газета беларускай эміграцыі, якая выдаецца ўжо сорак трэці год. У прыватнасці, у Менску газету можна купіць у кіёску ТБМ імя Ф.Скарыны, размешчаным на праспекце Скарыны каля Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Гэта стала магчымым дзякуючы намаганням выдавецкай кампаніі "Тэхналогія", якую ўзначальвае Вацлаў Багдановіч. Поўны змест кожнага нумара "Беларуса" ўжо другі год аператыўна перадаецца па факсу ў Менск, а "Тэхналогія" друкуе тут агульны (пакуль 800 паасобнікаў) наклад газеты і распаўсюджвае яго на Бацькаўшчыне. Такім чынам у нас з'явілася яшчэ адна адкрытая крыніца незалежнай і праўдзівай інфармацыі аб жыцці землякоў-беларусаў у англамоўных краінах (пераважна ў ЗША). Пэўную ўвагу надае "Беларус" і ацэнцы бягучых грамадска-палітычных падзей, якія адбываюцца ў нашай дзяржаве. Апошні, 413-ы нумар газеты (аб'яднаны, травеньска-чэрвеньскі, які крыху запазніўся з выхадам) – не выключэнне.

Адкрываюць нумар дакументы перадвыбарнай платформы БНФ "Адраджэньне", якую, да слова, горача падтрымлівае большасць амерыканскіх беларусаў. На другой паласе – інфармацыя пра 21-ю сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая мае адбыцца 3–5 верасня г.г. у канадскім горадзе Таронта. Тут жа змешчаны зварот Старшыні Згуртавання беларусаў Канады Міколы Санько і старшыні Галоўнай управы Беларуска-амерыканскага Задзіночання (БАЗ) Антона Шукелайце да суродзічаў, дзе падкрэслена важнасць гэтых традыцыйных сустрэч для жыцця ўсёй беларускай дыяспары ў Паўночнай Амерыцы, іх карыснасць для аналізу становішча спраў на Бацькаўшчыне. У кароткай рэдакцыйнай нататцы пад красамоўнай назвай "Пачатак ліквідацыі дзяржавы" на другой паласе выказана аднадушная думка нацыянальнага друку Рэспублікі Беларусь і заходніх аглядальнікаў у адказ на падпісаны ў Маскве дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм нашай краіны і Расіі.

На наступнай паласе доктар Вітаўт Рамук падрабязна расказвае аб сёлетніх святкаваннях 76-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, якія адбыліся ў Чыкага. Значную цікавасць павінна выклікаць у чытачоў чацвёртая паласа газеты. Тут – артыкул Ежы Тамашэўскага "Колькі слоў пра ўдзел беларусаў у арміі генерала Андэрса" (дарэчы, гэта тэма яшчэ зусім не вывучана беларускай гістарыяграфіяй, адна з чарговых "белых плям" нашай мінуўшчыны), да пяцідзесяцігоддзя славутай бітвы пад Мантэ-Касіна, дзе з гітлераўцамі змагалася шмат нашых суродзічаў, змешчаны ўспаміны аб бітве афіцэра-беларуса П.Сыча "Смерць і салаўі" і віншаванне доктара Раісы Жук-Грышкевіч (Канада) з нагоды саракагадовага юбілею існавання беларускай рэдакцыі радыё "Свабода".

Далей публікуецца інфармацыя "У Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва" (БІНіМ). Паведамляецца, у прыватнасці, што на апошнім сходзе інстытуцкага актыву была ўшанавана памяць колішняга прэзідэнта ЗША Рычарда Ніксана, які вельмі прыхільна ставіўся да беларускай дыяспары ў Амерыцы. Дырэктар БІНіМа доктар Вітаўт Кіпель падзяліўся ўласнымі ўспамінамі аб гэтым прэзідэнце, адзначыў, што ў ходзе перавыбарчай прэзідэнцкай кампаніі 1972 года быў створаны "Беларускі камітэт за перавыбранне Рычарда Ніксана". Доктар Янка Запруднік прачытаў на сходзе даклад "Новая англамоўная беларусіка", змест якога анатуецца "Беларусам". Зацікавіць, трэба думаць, чытачоў "Нашага слова" і даклад спадарыні Алены Ю[illegible]ч, прысвечаны стану мовазнаўчых даследаванняў у Рэспубліцы Беларусь, які прагучаў у БІНіМе крыху пазней згаданага сходу. Прамоўца адзначыла вельмі неспрыяльныя ўмовы для мовазнаўчай навуковай работы, якія існавалі ў БССР у 50–70-х гг. Але і ў той час, заўважыла яна, знаходзіліся сапраўдныя вучоныя, якія самаахвярна працавалі на будучыню. Добры прыклад такога высакароднага служэння навуцы – Фёдар Янкоўскі, з якім А.Юрэвіч плённа супрацоўнічала.

Амаль уся шостая паласа "Беларуса" прысвечана культурна-асветніцкім падзеям на Бацькаўшчыне і ў асяроддзі амерыканскай беларускай дыяспары. Так, пад рубрыкай "З жыцця ў Нью-Джэрсі" паведамляецца, што ў адной з сярэдніх школ амерыканскага горада Гілсайд гэтага штата адбыліся лекцыі пра Беларусь і беларускую культуру. Тут жа была разгорнута выстава твораў беларускага народнага мастацтва. Гэта праграма лекцый, з якімі выступілі спадарыні Ірэна Дудко, Надзея Кубасава, Ліза Літаровіч і Наталля Русак, мела вялікі поспех у амерыканскіх дзяцей. Яны, аказваецца, дагэтуль амаль нічога не ведалі пра нашу дзяржаву. Тут жа – кароткая інфармацыя з Міжнароднай Навуковай Акадэміі ў Менску, прысвечанай 200-годдзю вызвольнага паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, сціслы агляд апошняга нумара беларускамоўнай газеты "Зважай", якая выдаецца ў Канадзе, паведамленне пра навуковы даклад, зроблены доктарам Я.Запруднікам ва ўніверсітэце штата Агайо (ЗША) на канферэнцыі, прысвечанай сучасным праблемам Прыбалтыкі, Закаўказзя, Украіны і Малдовы, справаздачы аб пасяховым удзеле ў мастацкай выставе ў Атаве беларускі Івонкі Шыманец Сурвіла, якая экспанавала шэсць сваіх твораў.

На сёмай паласе – допіс К.Акулы з Канады аб пісьменніцкай канферэнцыі ў Атаве. Аўтар паведаміў удзельнікам гэтай навуковай сустрэчы пра сучасную беларускую літаратуру, у т.л. і пра эміграцкую беларускамоўную літаратуру.

Такім чынам, чарговы нумар "Беларуса" атрымаўся змястоўным і разнастайным. Адзінае, бадай, галоўнае, чаго яму пакуль не хапае, – аналітычнай інфармацыі з Бацькаўшчыны. Гэта ведае і кіраўніцтва газеты, якое нядаўна было госцем "Нашага слова".

**Мар'ян ВІЖ.**

*В У Ч Ы М С Я*

Мікалай КРЫЎКО

## *СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ*

**ПАМЕРЦІ** (перастаць жыць, існаваць) *Яму [Сцяпану] станавілася ўсё горш і горш. Увечары ён памёр* (Мележ), **СКАНАЦЬ** *Аднойчы пасля сваркі разгарачыўся дзед, выпіў конаўку халоднай вады, а цераз дзень і сканаў* (Лужанін), **ЗГАСНУЦЬ** прыўзнятае *[Маці] хутка згасла на непасільнай працы, як свечка на ветры, у свае трыццаць дзевяць год* (Клышка), **СПАЧЫЦЬ** высокае *Імёны, імёны, імёны... Хто ўчора спачыў, хто даўно...* (Чэрня), **ПАЧЫЦЬ** (або **СПАЧЫЦЬ) У БОЗЕ** устарэлае, кніжнае *[Манах] пасля жалобнага абраду тачыў елей смірэнства, слёзы аб дэспаце, «спачыўшым у бозе»* (Дзяргай), **ЗАСНУЦЬ** прыўзн. *Заснулі вы, сокалы, рана ў курганах пясчаных, спакойных* (Танк), **АДЫСЦІ** прыўзн. *Я ўспомніў маё знаёмства з Міхаілам Міхайлавічам [Прышвіным].. і думаў, што добра вось так: зрабіць усё, што мог і адысці* (Брыль), **ПАЙСЦІ** (або **АДЫСЦІ) АД НАС** прыўзн. *Нечакана пайшоў (адышоў) ад нас дарагі нам чалавек,* **ПАКІНУЦЬ НАС** прыўзн. *Два тыдні ўжо, як ён [Віктар Каліноўскі] пакінуў нас назаўсёды...* (Якімовіч), **ПАКІНУЦЬ ГЭТЫ СВЕТ** або **ПАКІНУЦЬ СВЕТ** прыўзн. *І навіна, калі пачую, Што хтось пакінуў гэты свет* (Камейша), **ПАКІНУЦЬ ЗЯМЛЮ** прыўзн. *Стары князь Адам Чартарыйскі ўлетку таго ж года пакінуў гэтую грэшную зямлю* (Якімовіч), **ПАЙСЦІ** (або **АДЫСЦІ, СЫСЦІ) НА ТОЙ СВЕТ** прыўзн. *Аж бацьку гора з ног зваліла, —пайшоў на той свет без пары* (Купала), **АДЫСЦІ** (або **ПАЙСЦІ) Ў ІНШЫ СВЕТ** прыўз. *Я сёння пакутліва думаў, хто возьме з маіх рук крыж, калі мне давядзецца адысці ў іншы свет* (Мальдзіс), **АДЫСЦІ Ў ВЕЧНАСЦЬ** прыўзн. *Адыходзяць у вечнасць людзі, без якіх птушыныя спевы — не спевы...* (ЛіМ), **ПАЙСЦІ** (або **СЫСЦІ) Ў ЗЯМЛЮ** (або **Ў МАГІЛУ)** прыўзн. *Потым, як пойдуць ў зямлю сырую Сотні прыгожых дзяўчат і дам, Статуям іхнім рукі цалуюць, Быццам лягчэй ад таго касцям* (Караткевіч). *Праз гэтага ўрача, кажуць, дзесяткі людзей пайшлі ў магілу* (Татур). *Ён пры сваёй кузні гаварыў з людзьмі пра яе і так, што ўсе раптам убачылі, які залаты чалавек сышоў у магілу* (Чорны), **ЛЕГЧЫ Ў ЗЯМЛЮ** (або **Ў МАГІЛУ, У ТРУНУ, У ДАМАВІНУ, У ВЕЧНУЮ ПАСЦЕЛЬ)** прыўзн. *Маці пагаруе — ды ў магілу ляжа, жонка пагаруе -- з іншым рукі звяжа* (Крапіва). *Зямлёй лягу ў зямлю, але перш прапяю* (Купала). *Пачынаюць суседзі ёй гаварыць, — ты ж без пары ў дамавіну ляжаш!* (Бядуля). *Я песняй мілую сваю праслаўлю.., Каб.. Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасцель* (Купала), **СЫСЦІ З ЗЯМЛІ** (або **СА СВЕТУ)** прыўзн. *Аднаму суджана да старасці пажыць, іншаму — сысці з зямлі ў самым росквіце* (Гартны). *Маці іншы раз хацела б быць на яго месцы: лепш сысці са свету, чым так жыць* (Кулакоўскі), **СЫСЦІ Ў ТРУНУ** (або **Ў ДОЛ)** прыўзн. *Той адрачэцца, той загіне, той хмура сыдзе у труну* (Разанаў). *А злічыць хто бясконца многіх.. Што і ў лясах, і на разлогах У дол сышлі без дамавін?* (Гаўрусёў), **СЫСЦІ СА СЦЭНЫ (ЖЫЦЦЯ)** прыўзн. *Калі я бачу, як навокал мяне сходзяць са сцэны жыцця мае равеснікі...* (Колас). *Чалавек памірае ці сыходзіць са сцэны, а справы яго прадаўжаюць жыць* (Дамашэвіч), **ЗАСНУЦЬ НАВЕКІ** (або **НАВЕК, НАЗАЎСЁДЫ, ВЕЧНЫМ СНОМ)** прыўзн. *Без споведзі.. мне памерці прыйдзецца.. — і заснуў навекі* (Бядуля). *Сам казаў, яшчэ жыць ахвота, і раптам заснуў назаўсёды* (Танк). *Заснула вечным сном старая маці* (Звонак), **СПАЧЫЦЬ ВЕЧНЫМ** (або **НЕПРАБУДНЫМ ) СНОМ** або **СПАЧЫЦЬ ВЕЧНЫМ СПАКОЕМ** прыўзн. *Вось курган — ён на брацкай магіле... Тут героі сном вечным спачылі* (Буйло). *Байцы.. спачылі непрабудным сном* (Танк). *Тацяна не адважылася праціснуцца далей — бліжэй да тых, што спачылі вечным спакоем* (Васілёнак), **СЫСЦІ НА ВЕЧНЫ СПАКОЙ** прыўзн. *І вось абарваліся ніці — сышоў ты на вечны спакой* (Колас), **СЫСЦІ Ў ЦІШЫНЮ** прыўзн. *Кахаць усё жыццё адну Усёй душой і сэрцам. Пасля сысці ў цішыню, Прасцей сказаць памерці* (Звонак), **РАЗВІТАЦЦА** (або **РАЗЛУЧЫЦЦА) З ЖЫЦЦЁМ** прыўзн. *Зімой з Мядзведзем гэтакім спаткацца — З жыццём не хітра развітацца* (Корбан). *Старая.. не вытрымала гэтай бяды, памерла, а Неўзабаве і сам Рыгор з жыццём разлучыўся* (Ракітны), **РАССТАЦЦА СА СВЕТАМ** прыўзн. *Радзіўся паэтам — дык будзеш паэтам, пакуль не расстанешся з радасным светам...*(Лось), **РАЗЛУЧЫЦЦА** (або **РАЗВІТАЦЦА) З ДУШОЙ** (або **З ДУШОЮ)** прыўзн. *[Хартаповіч:] — Калі яшчэ раз прыйдзецца, то калі з душой не разлучуся, дык навек вар'ятам стану* (Чорны). *Я б з яго дастаў бы душу так, каб ён чуў, як смачна з душой развітваецца* (Чорны), **ЗАРУЧЫЦЦА З БОГАМ** прыўзн. *А мне так садануў пад духі, што ледзь з Богам не заручыўся* (Лынькоў), **УЗЯЦЬ ШЛЮБ** (або **АЖАНІЦЦА) З ЗЯМЛЁЙ** (або **З ЗЯМЛЁЮ)** прыўзн. *Узяў шлюб з зямлёй Паўлюк, не гне ўжо плечы ў крук* (Купала). *Куды яму? Хіба з сырою зямлёю ажэніцца* (Янкоўскі), **НАВЕКІ АБНЯЦЦА З ЗЯМЛЁЙ** (або **З ЗЯМЛЁЮ )** прыўзн. *Адважных васемнаццаць — З арлінаю душой — Навекі абняліся з бацькоўскаю зямлёй* (Русак), **СЫСЦІ** прыўзн. *Сябры, сябры, Наш круг радзее — Хто сам сышоў, хто на вайне...* (Броўка), **ПАВАЛІЦЦА** разм. *Нямой рыбай аб лёд біся Век вяком і ў магілу паваліся Бедаком* (Купала), **ЗВАЛІЦЦА** разм. *Мы вось з бацькам не сёння-заўтра звалімся, не вечныя ж* (Пятроў), **ЛЕГЧЫ** разм. *Ігнат лёг пад каменем сівым, Ды ў сяле і дасюль Жыве памяць аб ім* (Лойка), **САШЧАПІЦЬ** (або **ЗГАРНУЦЬ) РУКІ** *На дочак матка батрачка, пакуль рукі сашчэпіць* (Прыказка). *Матка ж.. Затужыла і запала, гадкоў тры пацягнула, У марцы і ручанькі згарнула* (Багушэвіч), **СКЛАСЦІ** (або **ЗЛАЖЫЦЬ)** *рукі разм. З касою смерць прыйшла, з сабой весць прынясла: пара складаці рукі!* (Купала), *[Ян:] Я ўжо стары, ужо столькі не пражыву, колькі пражыў. Як прыйдзецца злажыць рукі, то хто табе ў помач стане?* (Каганец), **ПАЙСЦІ НА ВЕЧНЫ ВЫХАДНЫ** разм., *індывідуальна-аўтарскае Карчыстыя [старыя людзі], нарэшце скарчанелі, пайшлі спачыць на вечны выхадны* (Летка), **КОНЧЫЦЬ** (або **СКОНЧЫЦЬ ) ЖЫЦЦЁ** *Яшчэ так не было на свеце, Каб іуда кончыў, як чалавек, жыццё* (Танк). *Ён трагічна скончыў жыццё ў сакавіку* (Кісялёў), **КОНЧЫЦЦА** разм. (памерці ў пакутах) *Седас там ледзь не кончыўся, аслабеў, змардаваўся* (Чорны), **СКОНЧЫЦЦА** разм. *Мядзведзь скончыўся ад страху* (Бядуля), **ЗАЙСЦІСЯ** разм. *Сухотлівая сястра без догляду зайшлася* (Чорны), **ДАЙСЦІ** разм. — *Не штука з голаду дайсці пры такой рабоце, —апраўдваючыся, пачаў Саша* (Вітка).

***(Заканчэнне артыкула на слова* ПАМЕРЦІ *будзе).***

[ *РЭХА* ]

# *Ці вінаваты абітурыенты?*

Пасля прачытання нататкаў дацэнта МДПУ С.Бердніка аб тыповых памылках на прыёмных экзаменах па беларускай мове («Наша слова» № 27, 28) адносна тэмы «Агульныя звесткі аб мове» ўзнікла неабходнасць выказацца аб іх прычыне.

Першая, мабыць, у тым, што некаторыя настаўнікі ў школах тлумачаць вучням факты і з'явы мінулага так, як калісьці самі засвоілі іх у студэнцкі час. Падругое, няма адзінства ў поглядах на некаторыя гістарычна-моўныя працэсы сярод вучоных і асабліва практычных работнікаў вышэйшай школы і Міністэрства адукацыі Беларусі. Вось у старых падручніках «Гісторыя БССР» Абэцэдарскага гаворыцца, што «ў другой палове IX ст. утварылася старажытнаруская дзяржава з цэнтрам у Кіеве. У хуткім часе ў яе складзе былі аб'яднаны ўсе землі ўсходніх славян». Але ж дакладна вядома, што Полацкая зямля не хацела падпарадкоўвацца, доўга змагалася і была залежнай ад Кіева кароткі час.

У новым падручніку для сярэдняй школы «Гісторыя Беларусі» (1993 г., М.Баранава, Э.Загарульскі...) напісана: «У IX ст. ва ўсходніх славян узнікае першая дзяржава — Старажытная (Кіеўская) Русь... Тэрыторыя фарміруецца паступова... Складваецца новая гістарычная і этнічная супольнасць людзей —старажытнаруская народнасць... і ў розных частках краіны славяне сталі гаварыць на адной старажытнарускай мове». Вось па ім і вучацца нашы школьнікі.

Нарэшце, для абітурыентаў быў выдадзены ў 1992 г. дапаможнік «Беларуская мова». У ім нават у дапрацаваным і дапоўненым 2-м выданні 1994 г. праглядаюцца тыя ж памылкі. Дацэнт Берднік піша, што абітурыенты вельмі ахвотна расказваюць пра Кіеўскую Русь як адзіную дзяржаву з адзінай мовай. А як жа можа быць іначай, калі аўтары дапаможніка Э.Блінава, Н.Гаўрош, М.Кавалёва і іншыя пішуць: «У другой палове IX ст. з блізкіх паміж сабой плямёнаў склалася вялікая і магутная Кіеўская Русь... Дзяржаўнай мовай стала тая, якая сфарміравалася на аснове племянных дыялектаў і ў навуцы атрымала назву агульнаўсходнеславянская або старажытнаруская мова».

Як відаць, на іншых пазіцыях стаіць С.Берднік. Спасылаючыся на сучасных навукоўцаў, ён сцвярджае, што «не было адзінай дзяржавы (Кіеўскай Русі — М.П.), якая мела адзіную мову» і «што адзіная дзяржава Кіеўская Русь — гэта выдумка». Бо каб было інакш, заўважае сп.Берднік, то не было б бітвы на Нямізе. Слушная заўвага. Аднак разам з тым наш аўтар сцвярджае і іншае (у чым бачыцца пэўная супярэчнасць), а менавіта, што «ўсходнеславянская мова была, але ў ёй ўжо з самага пачатку вызначыліся дыялекты, якія потым заклалі асновы трох нашых моў». То навошта ў такім разе С.Берднiку пратэставаць супраць назвы «старажытнаруская мова»? Назва Русь, рускі, як вядома, пашырылася ў пазнейшы час на ўсе землі ўсходніх славян, аб чым сведчаць і пераклады Бібліі Ф.Скарыны. Справа ў тым, што, паводле меркаванняў многіх навукоўцаў, адзінай усходнеславянскай мовы не існавала. У кнізе «З гісторыяй на «Вы» (Мн., 1994) І.Ласкоў у артыкуле «Адкуль пайшла беларуская мова» піша, што сапраўды старажытная літаратура ўсходніх славян была на адной мове. Але ж гэта была **кніжная** мова, а гутарковай адзінай мовы быць не магло, бо дзяржава ў той час уяўляла сабою толькі вялікага князя з дружынай, што збірала даніну. У пацвярджэнне гэтай думкі спашлюся на выказванне прафесара В.Мартынава: «Так званая старажытнаруская мова —гэта не прамова трох усходнеславянскіх моў, а проста старaславянская літаратурная мова ва ўсходнеславянскім варыянце» («Наша слова», № 9, 1994).

Як бачым, нялёгка і нам, выкладчыкам, узгадніць свае пазіцыі, прыйсці да паразумення. А пра абітурыентаў і гаварыць няма чаго.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**настаўнік беларускай мовы**
**і літаратуры.**
**г. Ашмяны.**

# Знакі прыпынку ў складаназлучаных сказах

***Л. БУРАК,***
***заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі,***
***доктар філалагічных навук, прафесар***

*(Працяг)*

2. Калі спалучальныя часткі са злучнікам і маюць прычынна-выніковае або ўмоўна-выніковае значэнне, то пры звычайнай інтанацыі паміж імі заўсёды ставіцца коска: *Бабка хітра так міргае, і Лукаш адразу звяў* /Якуб Колас/. *Закрыеш вочы, і дзіўныя вобразы адзін за адным лунаюць у карагодзе бясконцым* /М.Лынькоў/. *Сходзіў бы на рэчку, і стала б весялей* /У.Краўчанка/.

3. Спалучальныя часткі складаназлучанага сказа, якія звязаны пры дапамозе злучальных слоў **потым, затым, пасля** і інш., звычайна аддзяляюцца коскай: *Гара крута абрывалася, затым абрыў пераходзіў у пакаты спуск* /Т.Хадкевіч/. *Дзесьці за кустамі заржаў конь, пасля данесліся вясёлыя галасы начлежнікаў* /Змітрок Бядуля/.

***УДАКЛАДНІМ***

4. Калі спалучальныя часткі са значэннем адначасовасці або паслядоўнасці з'яўляюцца надзвычай развітымі, маюць свае знакі прыпынку і вызначаюцца большай самастойнасцю, то яны аддзяляюцца кропкай з коскай: *Вее вецер, свішча ў коміне, горка плача, надрываецца; і цяпер мне тая музыка, як жывая, успамінаецца* /Якуб Колас/. *Старая паволі хадзіла па двары, пазірала на ўсё і як бы нічога не бачыла; затым яна аслабела і села на ганак, прыпёршыся плячыма к сцяне* /Кузьма Чорны/.

5. У тых выпадках, калі адна прэдыкатыўная частка складаназлучанага сказа мае намінатыўную форму, а ў самім сказе перадаецца хуткая змена з'яў ці падзей, паміж спалучальнымі часткамі заўсёды ставіцца працяжнік: *Момант — і ў веснічках паказалася Аленка* /Якуб Колас/. *Узмах вясла — і сонны бераг адразу пачынае жыць* /П.Глебка/

Пры хуткай змене з'яў ці падзей працяжнік ставіцца паміж спалучальнымі часткамі, якія маюць няпоўную форму: *Бабах — і гатова* /Якуб Колас/. *Тыдзень хады — і дома* /Кузьма Чорны/. *Шынель на плечы — і ў паход* /М.Лужанін/.

6. Працяжнікам аддзяляюцца спалучальныя часткі з прычынна-выніковым і ўмоўна-выніковым значэннем, калі паміж гэтымі часткамі існуе працяглая паўза і лагічна падкрэслены вынік: *Няма працы — і сэрцу млосна* /Цішка Гартны/. *Варта толькі пайсці дажджу — і работы ў катлаване спыняцца* /П.Броўка/. *А з'ясі ты з бульбай скварку — і работа пойдзе шпарка* /А.Русак/.

**Заўвага.** Калі вынік суправаджаецца ярка акрэсленым адценнем нечаканасці або катэгарычнасці, то працяжнік ставіцца не перад злучнікам, а пасля яго, напрыклад: *Дамо рублёў тры і — гатова* /Якуб Колас/. *Хмара хутка закрыла неба і — секанў густы дождж з градам* /Х.Шынклер/.

Пры большай паўзе і развітасці, а таксама самастойнасці і аслабленай сувязі паміж спалучальнымі часткамі з прычынна-выніковым і ўмоўна-выніковым значэннем /асабліва калі гэтыя часткі выразна адрозніваюцца мэтай паведамлення і маюць свае знакі прыпынку/ можа ставіцца коска з працяжнікам: *Эх, скошан луг, — і зніклі краскі* /Якуб Колас/. *Быў крытык мой адзін заўзяты, — і ён цяпер, сядзіць без хаты* /Кандрат Крапіва/. *Учора шчасце толькі глянула нясмела, — і развеяліся хмары змрочных дум*/М.Багдановіч/.

7. Калі ў складаназлучаным сказе аб'яднаны тры ці больш прэдыкатыўныя часткі, сярод якіх апошняя частка выдзяляецца лагічна і суадносіцца з агульным зместам папярэдніх частак, то пры наяўнасці працяглай паўзы паміж імі ставіцца коска з працяжнікам, напрыклад: *Рыпнулі дзверы, адны і другія, разоў пару хрыбуснуў снег пад нагамі, — і ўсё сціхла* /Якуб Колас/. *Дзесьці хрупаснуў сучок, мякка ўпала паблізу хваёвая шышка, за лесам заржала жарабя, — і зноў усё ціха і глуха.* /М.Лынькоў/.

*(Заканчэнне будзе)*

## ЮБІЛЕІ

# ТЫТАН МОВАЗНАЎСТВА
## (Да 75-годдзя з дня нараджэння прафесара М.Булахава)

22 ліпеня спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння славутага мовазнаўцы, энцыклапедыста і педагога прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі Міхаіла Гапеевіча Булахава.

М.Булахаў нарадзіўся ў вёсцы Маслакі Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1940 годзе скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Працаваў настаўнікам. Удзельнік Айчыннай вайны. За баявыя заслугі ўдастоены ордэна Айчыннай вайны II ступені, ордэна Чырвонай Зоркі і медалёў. Працаваў выкладчыкам Менскага педагагічнага інстытута (1949–51), навуковым супрацоўнікам і загадчыкам сектара сучаснай беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі (1951–65). У бытнасць М.Булахава загадчыкам сектара ў Акадэміі навук праблемы сучаснай беларускай мовы распрацоўваліся шырока і глыбока. На чале з М.Булахавым у Інстытуце мовазнаўства працаваў добры творчы калектыў, у які ўваходзілі такія спецыялісты, як А.Базыленка, Л.Бурак, І.Германовіч, З.Краўчанка, Б.Лапаў, А.Паркевіч, П.Шуба і інш. Імі і іншымі вучонымі пад кіраўніцтвам М.Булахава былі падрыхтаваны і апублікаваны двухтомная акадэмічная «Граматыка беларускай мовы» (1962–66), трохтомны «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (1957, 1959, 1961). Булахаў з'яўляецца адным з рэдактараў «Прац Інстытута мовазнаўства АН БССР» у 8-і выпусках (1954–61), сааўтарам падручнікаў і дапаможнікаў для студэнтаў «Беларуская мова» (ч. 1–2, 1955, 1958, 1968) і «Нарысаў па гісторыі беларускай мовы» (1957). У «Нарысах...» М.Булахавым прасочаны гістарычныя вытокі гукавога ладу, прааналізаваны граматычныя катэгорыі і формы, слоўнікавы фонд, устойлівыя словазлучэнні ў беларускай мове. М.Булахаў упершыню выдаў дапаможнік «Практыкаванні і матэрыялы па гісторыі беларускай мовы» (1956), а ў 1969 г. перавыдаў яго пад назвай «Практыкаванні і матэрыялы па курсу гісторыі беларускай мовы». У 1958 г. даследчык выдаў кнігу «Развіццё беларускай літаратурнай мовы XIX–XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі».

У 1965–1975 гг. М.Булахаў працуе ў БДУ загадчыкам кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства, а з 1975 па 1991 г. – загадчыкам кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства Менскага педагагічнага інстытута.

У 1966 годзе М.Булахаў стаў доктарам філалагічных навук, а праз год і прафесарам. Доктарскую дысертацыю ён прысвяціў гісторыі прыметнікаў у беларускай мове XIV–XVIII стагоддзяў. Па гэтай праблеме ім апублікавана тры тамы важкіх кніг (т. 1 – «Прыметнік у беларускай мове», 1964; т. 2 – «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы XIV–XVIII стагоддзяў. Сінтаксічны нарыс», 1971; т. 3 – «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы. Лексікалагічны нарыс», 1973).

У 1979 годзе прафесар М.Булахаў апублікаваў манаграфію «Асноўныя пытанні супастаўляльнай стылістыкі рускай і беларускай моў».

У 1987 годзе ў Маскве выйшла важкае і вялікае па аб'ёму даследаванне «Усходнеславянскія мовы», напісанае М.Булахавым у сааўтарстве з санкт-пецярбургскім прафесарам В.Кодухавым і кіеўскім прафесарам М.Жаўтобрухам. У гэтай кнізе М.Булахаў – аўтар раздзела «Марфалогія».

Прафесар М.Булахаў з'яўляецца сааўтарам і кіраўніком шматлікіх іншых прац, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для навучэнцаў педвучылішчаў і студэнтаў ВНУ па беларускай і рускай мовах.

Акрамя фундаментальных манаграфій, кніг, падручнікаў, зборнікаў практыкаванняў, вучоным апублікавана звыш дзвюх соцень навуковых артыкулаў і рэцэнзій, прысвечаных практычна ўсім напрамкам мовазнаўства. Пры даследаванні шляхоў фарміравання сістэмы беларускай мовы прафесар звяртаецца да багатай старажытнай пісьмовай спадчыны, да вуснай народнай творчасці і да жывой народнай мовы. У пераважнай большасці сваіх мовазнаўчых прац М.Булахаў высвятляе спецыфічныя рысы беларускай мовы ў параўнанні і супастаўленні з фактамі іншых славянскіх моў.

М.Булахаў не толькі «чысты» мовазнаўца, а і вучоны-энцыклапедыст, які першы ў савецкім мовазнаўстве стварыў трохтомны біябібліяграфічны слоўнік «Усходнеславянскія мовазнаўцы» (1976–78). Гэта даведачны слоўнік рускіх, беларускіх і ўкраінскіх мовазнаўцаў XVI – 70 гадоў XX стагоддзя, якія займаліся праблемамі практычнага і тэарэтычнага мовазнаўства. Слоўнікавыя артыкулы змяшчаюць характарыстыку дзейнасці вучоных, біяграфічныя дадзеныя, пералік асноўных прац з указаннем даты напісання або апублікавання, кароткі крытычны разбор найбольш важных прац, бібліяграфічны спіс прац пра вучонага, партрэты, факсіміле тытульных лістоў кніг. Сярод персаналій прадстаўлены такія беларускія вучоныя, як Л.Зізаній, А.Кіркор, І.Насовіч, Ф.Скарына, М.Сматрыцкі, Ф.Шынкевіч, І.Бялькевіч, П.Бузук, Н.Вайтовіч, І.Воўк-Левановіч, М.Гарэцкі, К.Гурскі, М.Гурскі, Я.Карскі, М.Каспяровіч, С.Некрашэвіч, Б.Тарашкевіч, М.Шатэрнік, П.Юргелевіч і інш. Усяго ў трох тамах біябібліяграфічнага слоўніка пададзены 352 нарысы пра вядомых вучоных-мовазнаўцаў і дзеячаў літаратуры, культуры, эстэтыкі, філасофіі, педагогікі, багаслоўя і інш., якія ў сваёй дзейнасці ў той ці іншай ступені закраналі пытанні мовазнаўства. Гэта фундаментальная праца М.Булахава атрымала шырокі водгук у славяназнаўстве і была ўдастоена прэміі Савета Міністраў СССР.

У 1989 годзе выйшла з друку энцыклапедыя М.Булахава пад назвай «Слова аб палку Ігаравым» у літаратуры, мастацтве, навуцы», у якой аўтар разглядае моўныя рысы помніка і пераклады яго на сучасную беларускую мову, зробленыя Я.Купалам, М.Багдановічам (урывак), М.Гарэцкім, Р.Барадуліным, В.Дарашкевічам. У кнізе даецца аналіз прац беларускіх і іншых даследчыкаў старажытнага твора і іх біяграфіі. Энцыклапедыя змяшчае 450 слоўнікавых артыкулаў і мноства ілюстрацый.

У 1981 годзе ў выдавецтве БДУ выйшла кніга М.Булахава «Яўхім Фёдаравіч Карскі. Жыццё, навуковая і грамадская дзейнасць». Праца прысвечана першаму акадэміку-беларусу, заснавальніку беларускай філалогіі, аднаму з буйнейшых вучоных-славістаў XIX–XX стст. У кнізе прасочваецца жыццёвы шлях, педагагічная, навукова-даследчая і грамадская дзейнасць акадэміка Я.Карскага. Асноўная ўвага ўдзяляецца характарыстыцы лінгвістычных прац вучонага па славянскіх мовах. Кніга Булахава забяспечана шматлікімі факсіміле прац Карскага і фотаздымкамі.

Нягледзячы на свой сталы ўзрост, М.Булахаў знаходзіцца ў творчым натхненні і нястомнай працы. Працуе прафесарам у Менскім педагагічным універсітэце. У апошнія гады чытае студэнтам спецкурс па ўсіх 15-і славянскіх мовах. Вучоны падрыхтаваў да друку кнігу артыкулаў па розных пытаннях беларускай мовы (гісторыя мовы, этымалогія, сучасная мова і г.д.), чацвёрты том «Гісторыі прыметнікаў беларускай мовы», прысвечаны словаўтварэнню прыметнікаў, а таксама дапоўнены і дапрацаваны слоўнік «Усходнеславянскія мовазнаўцы». Рыхтуецца Міхаілам Гапеевічам у сааўтарстве з В.Нікалаевай «Слоўнік незнамянальных слоў і выразаў у рускай мове». Крыніцамі слоўніка паслужылі мастацкія, крытычныя, публіцыстычныя і мемуарныя творы рускай мовы XVIII–XX стст.

Зробленае прафесарам М.Булахавым у мовазнаўчай навуцы ўражвае спецыялістаў і не толькі лінгвістычнай галіны. Імя М.Булахава добра ведаюць у мовазнаўчай навуцы ўсіх славянскіх і іншых народаў. На вялікі жаль, унёсшы такі важкі ўклад у беларускае і славянскае мовазнаўства, М.Булахаў не ўдастоіўся звання акадэміка ні Акадэміі навук СССР, ні тым больш Акадэміі навук Беларусі. Але ў гэтым няма ніякай віны самога Міхаіла Гапеевіча – вялікага працаўніка, вучонага-энцыклапедыста і вельмі сціплага чалавека. Віна тут чыноўнікаў ад навукі.

У заключэнне неабходна пажадаць шаноўнаму Міхаілу Гапеевічу моцнага здароўя, новых творчых і жыццёвых удач.

**Мікалай КРЫЎКО,**
старшы навуковы
супрацоўнік Інстытута
мовазнаўства імя Якуба
Коласа Акадэміі навук
Беларусі.

## ФІЛАЛОГІЯ

# У СНЕ МОВУ НЕ ВЫВУЧЫШ

## (Гутарка з кандыдатам філалагічных навук, выкладчыкам Менскага лінгвістычнага універсітэта Ю.В.СТУЛАВЫМ)

**– Юрый Віктаравіч, вядома, што ў англійскай мове істотна адрозніваецца напісанне слоў ад іх вымаўлення. Але ж людзі павінны запамінаць словы. Як лепей, на Вашу думку, павінна адбывацца запамінанне?**

– Гэта залежыць ад тыпу памяці. У аднаго чалавека пераважае зрокавая памяць, а другі лепей запамінае словы, калі яго чуе. На мой погляд, было б вельмі карысна даваць нейкія тэсты для людзей, якія пачынаюць вывучаць замежную мову, каб можна было вызначыць, які тып памяці характэрны для кожнага чалавека. Калі пераважае зрокавая памяць, то тады трэба пісаць словы з прыкладамі на карткі. Карткі сістэматычна праглядаць і спрабаваць запамінаць словы. Паўтараць гэта шмат разоў. Калі ж чалавек запамінае лепш на слых, то трэба больш слухаць магнітафонных запісаў на англійскай мове.

**– А як адбываецца навучанне англійскай мове дзяцей у англійскіх школах?**

– Я не быў сведкам, як вучаць англійскіх дзяцей, бо яны ж чуюць гэтую мову з першага дня свайго нараджэння. Але я бачыў, як вучаць кітайскіх дзяцей, якія нарадзіліся ў Амерыцы і жывуць там, але англійскую мову добра не ведаюць. Гэта адбываецца прыкладна так, як у першых класах нашых школ.

**– У англійска-расійскіх слоўніках падаюцца англійскія словы, транскрыпцыя і іх пераклад. Няма напісання слоў кірыліцай, што значна аблегчыла б іх запамінанне для школьнікаў і студэнтаў. Як Вы гэта растлумачыце?**

– На мой погляд, тут цяжкасцей няма. Школьнікі і студэнты з першага дня навучання англійскай мове павінны ведаць фанетычныя абазначэнні гукаў. Што да напісання слоў кірыліцай, то ў нас няма дакладна такіх самых гукаў, як у англійскай мове. Напрыклад, Thank you. Калі мы будзем пісаць кірыліцай, то гэта будзе сэнк'ю, альбо тэнк'ю. Але гэта не дакладная перадача гукаў.

**– Юрый Віктаравіч, нашы чытачы заўважылі інтэрв'ю, якое Вы далі з нагоды сваёй камандзіроўкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Мы гаварылі ўвогуле пра стан адукацыі ў ЗША. Але якім чынам амерыканцы вывучаюць англійскую мову? Я б нават падзяліла гэтае пытанне на два: наколькі і чым адрозніваецца англійская літаратурная мова ад яе амерыканскай сястры?**

– Усё ж такі гэта два варыянты англійскай мовы. Недзе яшчэ ў VIII стагоддзі паміж імі фактычна не было розніцы. Але фарміраваліся нацыянальныя характары, а разам з імі ўзнікалі і пэўныя адрозненні ў мовах. Цяпер яны праяўляюцца найперш ва ўжытку лексікі. Для абазначэння адных і тых жа паняццяў у дзвюх мовах выкарыстоўваюцца розныя словы. У амерыканскім варыянце англійскай мовы нават трохі іншая граматыка. Часам узнікае ўражанне, што гэта англійская мова ранніх часоў. Бо там ёсць такія граматычныя з'явы, якія ў брытанскай мове даўно ўжо зніклі. У граматыцы амерыканскага варыянта па-іншаму выкарыстоўваецца такое граматычнае паняцце як «час». Там існуюць больш жорсткія правілы, чым у брытанскім варыянце англійскай мовы, дзе выкарыстанне часу больш разнастайнае. Безумоўна, значныя адрозненні назіраюцца і ў вымаўленні. Гукі ў амерыканскім варыянце не зусім адпавядаюць гукам брытанскага варыянта англійскай мовы. Існуюць нават розныя транскрыпцыйныя значкі для абазначэння гукаў і розныя інтанацыйныя сістэмы для абазначэння інтанацыі. На маю думку, цяпер патрэбна больш увагі ўдзяляць амерыканскаму варыянту, бо мы яго ніколі не вывучалі.

**– А як амерыканцы завучваюць англійскі правапіс?**

– З дапамогай правілаў, якія падчас вельмі складаныя, бо зроблены з пункту гледжання гістарычнага развіцця мовы. Амерыканцы «падправілі» гэты правапіс. Цяпер ён у іх крыху прасцейшы, чым у Брытаніі. А ўвогуле пісьму яны надаюць шмат увагі. Вусных экзаменаў амаль няма. Усе экзамены пісьмовыя. А экзамен па пісьмовай англійскай мове праходзіць праз усю сярэднюю школу і працягваецца ў вышэйшых навучальных установах.

**– Англійская мова – адна з самых пашыраных у свеце. На ёй цяпер распрацавана ўся камп'ютарная тэхніка. Проста дзіўна, што яна складаная ў напісанні. Ці спрабавалі англічане неяк спрасціць яе?**

– Гэта было, як пісала ўжо ваша газета, марай жыцця вялікага англійскага драматурга Бернарда Шоў. Ён нават заснаваў фонд для рэформы англійскага правапісу. У сваіх працах ён спрабаваў спрасціць англійскі правапіс, але з гэтага нічога не атрымалася. Ніхто не піша так, як пісаў ён. Усё як было, так і засталося. Гэта ўжо праблема традыцыі. Таксама як у рускай мове слова «солнце». Ніхто не вымаўляе гук «л», але ўсе яго пішуць. Так што хочацца ці не, але, каб лепш запомніць арфаграфію англійскіх слоў, трэба шмат практыкавацца ў іх напісанні.

**– Юрый Віктаравіч, а дзе Вы пачыналі вучыць англійскую мову?**

– У Другой школе горада Віцебска. Гэта былі 50-я гады. Мы пачыналі вывучаць англійскую мову, калі не памыляюся, у трэцім класе. На ўсё жыццё запомніў першы падручнік па англійскай мове. Ён быў каляровы, з прыгожымі малюнкамі, у той час як усе іншыя падручнікі былі нейкія шэрыя. Першая настаўніца англійскай мовы так зацікавіла нас першым урокам, што я пасля ўсур'ёз захапіўся англійскай мовай і пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у інстытут замежных моў.

**– Цяпер Менскі лінгвістычны універсітэт – адзін з самых прэстыжных у Беларусі. Да вас спрабуюць паступіць выпускнікі як гарадскіх школ, у большасці якіх ёсць добра абсталяваныя лінгафонныя кабінеты, так і сельскіх, дзе такіх добрых умоў для вывучэння замежных моў няма. Ці адчуваецца розніца ў валоданні замежнымі мовамі ў такіх абітурыентаў і ці аказвае вымаўленне ўплыў на адзнаку на ўступных экзаменах?**

– Думаю, што такога рашучага ўплыву на адзнаку вымаўленне не аказвае. Безумоўна, мы павінны браць да ўвагі, што выпускнік сельскай школы не меў такіх умоў для вывучэння замежнай мовы як, скажам, выпускнік лінгва-гуманітарнага коледжа ў Менску. Але хачу сказаць, што за два апошнія гады, калі я працаваў у прыёмнай камісіі, пераканаўся, наколькі правільна мы зрабілі, што павысілі патрабаванні да абітурыентаў. Гэта толькі на карысць школам. Бо вучні, якія ставяць перад сабой мэту паступіць у нашу навучальную ўстанову, пачынаюць больш сур'ёзна падыходзіць да прадмета навучання. І што цікава, у апошнія гады розніца ў ведах паміж выпускнікамі гарадскіх і сельскіх школ не была ўжо такой значнай, як, скажам, гадоў дзесяць таму назад.

Распытвала
**Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*У СУСЕДЗЯЎ*

## Слоўнікі — энцыклапедыя думак

Сёння, як і ў Беларусі, вельмі востра стаіць пытанне ўкраінскай нацыянальнай тэрміналогіі. Нацыянальнай не таму, што мы хочам адмежавацца — усякая тэрміналогія нацыянальная, хочам мы таго ці не хочам, — а таму, што яна ўключае ў сябе ўсё, што напрацавана ў гэтай галіне нацыянальнаю школаю, а дакладней школамі, бо ў нас былі і рэгіянальныя нацыянальныя навуковыя школы. І калі мы хочам, каб украінская /ці беларуская, ці другая іншая/ нацыянальная лінгвістыка, нацыянальная, скажам, хімічная навуковая школа была шырока прадстаўлена ў Еўропе ці ў свеце, то мы мусім зберагчы, захаваць усё, што зроблена.

Укладальнікі слоўнікаў, што цяпер ствараюцца, не маюць права адкідаць ні аднаго тэрміна, адкуль бы ён ні паходзіў. Пакуль жа ў нас такая звычка: вось гэта правільнае, а гэта неправільнае. Ды зрэшты можна прыдумаць, зрабіць тысячу памылак, якія б далі магчымасць падаваць гэтыя словы-назвы. І калі б мы ў тэрміналагічным слоўніку пазначалі, скажам, што гэтая назва з такога рэгіёна ці такога перыяду, то мы ад гэтага толькі б выйгралі. А калі хто хоча кадыфікаваць, нармаваць, то, калі ласка, на першае месца стаўце той супернарматыўны, ці кадыфікаваны тэрмін, які вы хочаце, а далей з рознымі паметкамі давайце ўсе іншыя. Але зноў жа, я чытаю цяпер літаратуру 20—30-х гадоў, тэрміналагічную літаратуру і бачу там шмат тэрмінаў, што не ўвайшлі ні ў якія тэрміналагічныя слоўнікі. Не трапілі яны і ў слоўнікі літаратурнай мовы, бо тыя нібы скіраваны на кадыфікацыю, нармалізацыю мовы.

І такім чынам, мы губляем шмат з таго, што ўжо ёсць у мове. І мы не хочам зразумець, што прызначэнне слоўнікаў якраз палягае на тым, каб усё, што ёсць у мове, зберагчы, незалежна ад таго, ці яно мае перспектыву яшчэ сто гадоў функцыянаваць, ці не мае такой перспектывы.

Так што мне ўяўляецца на сёння, скажам, для ўкраінскай мовы і ўкраінскага мовазнаўства вельмі важным змяніць даследніцкую палітыку, памяняць арыенціры. Ад кадыфікацыі, суперкадыфікацыі трэба перайсці да асмыслення іншага — для чаго гэта ўсё робіцца!? Для мовы, асабліва для тых моў, што зараз пашырылі сваю функцыю, першае заданне — даць максімальна поўныя слоўнікі. А ў сувязі з тым, што пераацэньваецца значэнне самога слоўніка, на маю думку, слоўнік — гэта ў пэўнай меры энцыклапедыя думак тых людзей, што стварылі нацыянальную навуку, нацыянальную навуковую школу.

**Паўло ГРЫЦЭНКА.**
**Украіна.**

***ВЫСТАВЫ***

## *З першабытных часоў да нашых дзён*

20 ліпеня гэтага года ў будынку Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі ў Менску адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы «Святло таямнічай сімволікі», прысвечанай гісторыі паўстання і існавання беларускай народнай і дзяржаўнай сімволікі.

Экспазіцыя выставы, размешчаная ў дзвюх залах, ахоплівае перыяд з першабытных часоў да нашых дзён. Яе пачатак складаюць археалагічныя і этнаграфічныя матэрыялы — адзенне, зброя, рэчы штодзённага ўжытку і абрадавага прызначэння, якія знаёмяць наведвальнікаў з вытокамі беларускай народнай



сімволікі. Семантычныя знакі на прасёлках, керамічным посудзе, упрыгажэннях — сімвалы сонца, агню, поля, плёну, знакі абярогу, якія маюць выгляд зорак, колаў, крыжоў, свастыкі, могуць шмат аб чым расказаць цікаўнаму і дасведчанаму ў народных традыцыях чалавеку. У іх закладзена этнічная памяць нашага народа, яго эстэтыка і светапогляд. І таму арнамент тканіны, вышыўкі ручніка, тканага пояса ці дзіцячай цацкі з'яўляецца адлюстраваннем лёсу чалавека, што стварыў яго, увасабленнем ягонага светаўспрыняцця.

Наведвальнікі выставы бачаць, як сімволіка Сонца — боства нашых продкаў і яго ўвасаблення — бога-вершніка Ярылы з цягам часу трансфармуецца ў абстрактную выяву вершніка на белым кані. Падобныя выявы на выставе прадстаўлены кафлямі XV—XVI стагоддзяў, знойдзенымі падчас раскопак у Заслаўі і Мсціславе. Менавіта ад выявы Ярылы і вядзе сваё паходжанне дзяржаўны сімвал Вялікага Княства Літоўскага — Пагоня — герб, створаны звыш сямі стагоддзяў таму. Выявы Пагоні на выставе можна ўбачыць на дакументах, пячатках, манетах, харугвах старадаўняй Беларусі.

Працягам гістарычнай традыцыі — тлумачаць экспанаты выставы — з'яўляюцца і колеры дзяржаўнай сімволікі нашага краю. Спрадвеку традыцыйнай пашанай нашага народа карысталіся два колеры — белы і чырвоны: белы — як сімвал чысціні, чырвоны — колер крыві і агню — сімвал адвагі. Вышытыя чырвоным па белым нацыянальныя строі перадалі свае колеры і дзяржаўным сцягам, узоры якіх часоў сярэднявечча прадстаўлены на выставе. Паводле законаў еўрапейскай геральдыкі асноўным колерам сцяга нашай дзяржавы стаў колер беласнежнай Пагоні з чырвоным пасам пасярэдзіне, які адпавядаў колеру геральдычнага шчыта. Гэтыя сцягі прадстаўлены і на карціне невядомага мастака XVI стагоддзя, сюжэтам якой стала бітва пад Оршай у 1514 годзе.



Тая частка экспазіцыі, што датычыць часу, калі Беларусь уваходзіла ў склад Расійскай імперыі, адлюстроўвае працэс замены нацыянальнай сімволікі імперскай. На экспанатах таго часу — дакументах, гарадскіх гербах і г.д. — зацверджаная Статутам 1588 года афіцыйная мова Вялікага Княства заменена расійскай, таксама як Пагоня — двухгаловым арлом. Да гэтага ж часу належаць і іншыя экспанаты — сцягі і дакументы паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, на якіх зноў з'яўляецца выява Пагоні.

Апошні раздзел экспазіцыі апісвае падзеі нашых дзён. Змешчаныя на стэндах выданні і дакументы адлюстроўваюць складаны і нялёгкі працэс вяртання беларускаму народу забранай у яго дзяржаўнай сімволікі. Мноства нелегальных выданняў («Экспрэс-хроніка», «Навіны БНФ» ды іншыя) і ці не першым сярод афіцыйных — «Наша слова» пачалі выкарыстоўваць на сваіх старонках і тым самым прапагандаваць гістарычную сімволіку беларускай дзяржавы, якая ўвасабляе ідэю вольнасці і незалежнасці нашага народа.

— Сёння ёсць сілы, якія спрабуюць дыскрэдытаваць нацыянальныя сімвалы Беларусі, рэанімаваць бальшавіцкія, а разам з імі — і бальшавіцкую сістэму. Таму мы лічым, што гэтая выстава будзе актуальнай. Яна будзе актуальнай заўсёды, бо дапаможа адкрыць людзям вочы на нашую сімволіку, якая не залежыць ад палітычных рухаў. Яна — у душы народа, — сказаў падчас цырымоніі адкрыцця выставы дырэктар музея Іван Загрышаў. Думаецца, час пакажа слушнасць ягоных слоў. А наладжаная музеем выстава адыграе сваю надзвычай актуальную сёння ролю ў справе абуджэння свядомасці нашага народа.

**У. П.**
**Фота аўтара.**



**НА ЗДЫМКАХ:** *Кафля XVI стагоддзя.*

*Спражка з рэменя паўстанца 1863 года.*

*Сцяг паўстанца 1863 года.*

***ЧЫТАЛІ?***

## «Беларускі гістарычны часопіс»: роздум спецыялістаў, архіўныя знаходкі, метадалогія

Прызнацца, пасля беглага знаёмства з назвамі зместу другога нумара «Беларускага гістарычнага часопіса» за сёлетні год перш за ўсё хочацца прачытаць пасмяротную публікацыю Генадзя Каханоўскага «Вытокі музейнай справы на Беларусі». Артыкулу папярэднічае ўступнае слова Адама Мальдзіса. Вядомы вучоны, паплечнік маладзечанскага рупліўца, у прыватнасці, заўважае: «Генадзь Каханоўскі з пашанай ставіўся да сваіх папярэднікаў, найперш землякоў, ушаноўваў іх памяць працамі, мемарыяльнымі дошкамі і камянямі, музейнымі экспазіцыямі. І таму ён з лёгкасцю перадаваў эстафету пакаленняў іншым, наступнікам. Калі ён пачынаў у Маладзечне дбаць пра беларускасць, побач з ім былі, бадай, толькі Мікола Ермаловіч ды Кастусь Харашэвіч. Але зерне настойліва сеялася і — прарастала. І сёння ў Маладзечне ўжо сотні і сотні аднадумцаў, якія прыйшлі праводзіць яго ў апошні шлях і давалі над магілай слова прадоўжыць яго справу». Артыкул Генадзя Каханоўскага «Вытокі музейнай справы на Беларусі», відаць, варта разглядаць як частку шырокамастацкай задумы вучонага стварыць, напісаць гісторыю беларускай культуры.

У другім нумары прысутнічае і юбілейная рубрыка. У раздзеле «Да 50-годдзя вызвалення Беларусі» змешчаны артыкулы Васіля Кушнера і Якава Паўлава «Вызваленне Беларусі: на шляху да Вялікай Перамогі» і Віктара Ермаловіча «З архіваў партызанскага руху». Важную выснову робяць аўтары першай са згаданых публікацый: «Адзначаючы 50-годдзе вызвалення Беларусі, будзем шанаваць не толькі жывых герояў-франтавікоў, партызан, падпольшчыкаў і працаўнікоў тылу, але памяць і аб тых мільёнах ахвяр, якія сваё жыццё паклалі на алтар Перамогі. Яны заслугоўваюць, каб сівыя ветэраны і моладзь схілілі свае галовы перад памяццю, перад крывёй і пакутамі, што выпалі на іх лёс».

Публікацыя ж ваеннага гісторыка В.Ермаловіча ўзнаўляе адметную крыніцу, якая пралівае святло на пачатковы перыяд партызанскага руху на Беларусі. Вучоны знаёміць чытача з дакладной запіскай камандзіра партызанскіх брыгад і атрадаў Пінскай вобласці Васіля Захаравіча Каржа. Дакумент адрасаваны начальніку штаба партызанскага руху П.Панамарэнку, са зместу яго добра бачна, які́м няпростым быў пачатак усенароднай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Шэраг публікацый нумара аб'яднаны ў раздзеле «Берасцейшчына». Алег Іоў выступае з артыкулам «Берасцейская зямля ў X—XIII стст.» Уладзімір Здановіч прадстаўляе на суд дасведчанага чытача грунтоўнае даследаванне «Берасцейская зямля ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай». У раздзеле «Берасцейшчына» — і нарыс Ірыны Лаўроўскай «Ад гэтай царквы не засталося і следу». Даследчыца расказвае пра царкву св. Мікалая, якая ўпершыню згадваецца ў грамаце вялікага князя Літоўскага Вітаўта пад 1390 г. Менавіта тады Бярэсцю было нададзена магдэбургскае права.

А яшчэ ў берасцейскім раздзеле часопіса — грунтоўны артыкул Аляксандра Вабішчэвіча «Нацыянальная школа ў Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.)», а таксама публікацыя Альберта Багдасарава, Максіма Багдасарава, Ірыны Жлобы «Бурштын Берасцейшчыны —багацце Беларусі».

Уважлівае знаёмства з берасцейскімі матэрыяламі нумара прымушае задумацца над вызначэннем сапраўднай праграмы прадстаўлення на старонках часопіса пэўных рэгіёнаў. Тым самым «Беларускі гістарычны часопіс» змог бы стаць своеасаблівым дадаткам для вывучэння гісторыі Беларусі ў школе і выкарыстання пры гэтым пэўнага мясцовага матэрыялу.

«Беларускі гістарычны часопіс» (у адрозненне ад «Спадчыны» і «Беларускай мінуўшчыны») — выданне, дзе знаходзіцца месца і для асвятлення метадалагічных гістарычных пытанняў. На тое —і раздзел «Усеагульная гісторыя». У другім нумары пад гэтай рубрыкай змешчаны артыкул Віталія Старцава «Расійская імперыя пачатку XX ст.: праблемы вывучэння».

Друкуецца ў часопісе і заканчэнне даследавання Аляксандра Хацкевіча «Арышты і дэпартацыі ў заходніх абласцях Беларусі (1939—1941 гг.)». Цікава (а разам з тым і горка, і балюча!) даведацца з прыведзеных дакументаў, за што садзілі людзей у турму, гналі ў лагер, за што нішчылі чалавека фізічна і духоўна.

Не павінны застацца безуважнымі да другога нумара «Беларускага гістарычнага часопіса» і калекцыянеры беларусікі. Да іх увагі ў раздзеле «Фалерыстыка» змешчаны артыкул Дзмітрыя Карпіевіча «Ордэны Рэчы Паспалітай». Да публікацыі пададзены адпаведны ілюстрацыйны матэрыял.

Надзвычайную карысць (і асабліва для школьных настаўнікаў) можа мець публікацыя прыкладной праграмы курса (факультатыва) «Гістарычныя крыніцы і спецыяльныя навукі». Аўтар распрацоўкі — Сымон Барыс.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

